PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 11 (1922) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 14 САКАВІКА 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## ПАМІРАЮЧАЯ ВЁСКА

Пра апусцелыя нашыя вёскі пісалася ўжо няраз, і не толькі ў „Ніве". Кожны, хто нарадзіўся дзесьці каля Саколкі, Міхалова, Нараўкі, Гайнаўкі, Мілейчыц, і жыве ў „вялікім горадзе", ведае, чаму пакінуў родную вёску, гаспадарку, якую яго продкі стваралі дзесяткі гадоў. Ніхто з гэтых мяшчанаў першага пакалення, калі пастарэлі іх бацькі, нават не сумняваўся ў тым, што зямлю трэба здаць у дзяржаўны фонд. Ад сямідзесятых гадоў хутка ўзрастаў лік усялякіх саўгасаў, „кулкаў", а зямлю гэтым разам ніхто і нікому гвалтам не адбіраў.

Пры народнай уладзе штосьці там яшчэ рабілі на гэтай апушчанай уласнікамі зямлі п'янаватыя трактарысты з грамадскіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Цяпер, калі гэтая сацыялістычная гаспадарка развалілася, на зямлі нашых продкаў весела шуміць бур'ян ды асот, а дзе-нідзе і лес пачынае расці. Дзесьці ў палове дарогі паміж Заблудавам і Міхаловам, недзе каля Фальваркаў, бывала засеюць некалькі сот гектараў аўсом ці кукурузай, дзе, як вокам глянуць, аж па небасхіл калыхалася летам жоўтае мора. Праўда, не заўсёды збіралі там які-небудзь хаця б плён, але восенню кожнага года гладзенька заворвалі поле.

У 80-х гадах наехала ў гэту ваколіцу шмат асаднікаў з цэнтральнай Польшчы. Некаторыя вытрымалі год ці два, адзін нават гаспадарыць да сённяшняга дня, але дзеці яго пайшлі ўжо такім самым шляхам, якім пару гадоў раней уцякала ў Беласток беларуская моладзь.

Цяжка гаварыць, што некаторыя вёскі, у якіх яшчэ дваццаць гадоў таму назад

☞ *Працяг на стар. 4*




## НАША „НЕЛЕГАЛЬНАСЦЬ" СКОНЧЫЛАСЯ

25 лютага 1993 г. Апеляцыйны суд у Беластоку зарэгістраваў яшчэ адно перыядычнае выданне на Беласточчыне — нашу „Ніву" менавіта. Выдаўцом газеты значыцца Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Гэткім чынам закончыўся звыш трохгадовы перыяд „нелегальшчыны" ў выдаванні „Нівы", які працягваўся са снежня 1989 г.

Што сталася ў 1989 годзе? Дык вось, папярэдні выдавец „Нівы", Работніцкая выдавецкая суполка *Prasa-Książka-Ruch*, адмовіўся спансараваць некаторыя нерэнтабельныя свае выданні (агулам звыш 10 газетаў і часопісаў) і перадаў іх у распараджэнне Міністэрству культуры і мастацтва (у тым ліку і „Ніву"). Неўзабаве парламентам быў прыняты закон аб дэманапалізацыі суполкі *Prasa-Książka-Ruch*, і яна юрыдычна перастала існаваць, а ўсе ейныя паўнамоцтвы і абавязанні пераняла ўтвораная тым жа законам Ліквідацыйная камісія. Пачаўся працэс прыватызацыі прэсы ў Польшчы.

„Ніва" выходзіла сабе далей, спансараваная Міністэрствам культуры і мастацтва. У той час, калі ў краіне пачаўся ліхаманкавы працэс перарэгістрацыі ўсіх перыядычных выданняў, беларускае асяроддзе і ў вус сабе не дула, лічачы, што дзяржава не пакіне беларусаў у бядзе і, як было дагэтуль, усё вырашыць за іх. Магчыма, кіраўніцтва БГКТ лічыла, што „Ніва" і далей з'яўляецца органам гэтай арганізацыі (хоць не была ім, у юрыдычным сэнсе ніводнага дня на працягу свае звыш 35-гадовае гісторыі), а рэдакцыя, магчыма, думала, што выдавецкія правы на „Ніву" пераняло Міністэрства культуры і мастацтва. Прыватная думка ў мяне такая, што ўсе мы наогул пра гэта сур'ёзна не думалі, бо не прывыклі чытаць сеймавыя законы. Спроба паставіць новага галоўнага рэдактара „Нівы" ў красавіку 1992 г., учыненая Прэзідыумам ГП БГКТ, падмацаваная яшчэ захопам камп'ютэрнай тэхнікі, справу набыцця выдавецкіх правоў на „Ніву" ўнесла, так сказаць, на парадак дня.

Калі для развязання гэтага канфлікту рэдакцыя папрасіла ў арбітры Міністэрства культуры і мастацтва (як-ніяк, спонсара газеты), аказалася, што Міністэрства не мае выдавецкіх правоў на „Ніву" і мець іх не хоча. Бачачы аднак, што страсці вакол „Нівы" зашумавалі не на жарты, прадстаўнікі Міністэрства падказалі выйсце: утварыць Праграмную раду, якая сталася б дэмакратычным прадстаўніцтвам усіх беларускіх арганізацый і набыла б, як юрыдычны суб'ект, правы на „Ніву". Такая Рада неўзабаве была ўтвораная — у яе ўвайшлі па тры прадстаўнікі ад пяці беларускіх арганізацый, акрамя прадстаўнікоў БГКТ, якія, па-відавочнаму, усё яшчэ лічылі, што правы на выдаванне „Нівы" мае адно Таварыства, а ўся гэтая спроба з Праграмнай радай — чыстай вады замах на яго статутныя паўнамоцтвы. Далей справу

☞ *Працяг на стар. 4*

## ЧАС УСЁ РАССТАВІЦЬ ПА СВАІХ МЕСЦАХ

**АДА ЧАЧУГА ГУТАРЫЦЬ СА СТВАРАЛЬНІКАМ І БЫЛЫМ ШМАТГАДОВЫМ ГАЛОЎНЫМ РЭДАКТАРАМ „НІВЫ" ГЕОРГІЕМ ВАЛКАВЫЦКІМ У ЮБІЛЕЙ ЯГОНАГА 70-ГОДДЗЯ.**

*— Як будзем гаварыць на старонках „Нівы" — ці так, як калісьці, на „ты", ці мо на „Вы" з нагоды такога юбілею?*

— Няхай будзе так, як было, тым больш, што я цяпер прыватная асоба.

*— Ні функцый, ні заданняў — глядзі і слухай, як пісаў ты ў сваіх „Вірах"?*

— Не люблю быць начальнікам. Гэта супраць маёй прыроды. Тое, што быў галоўным рэдактарам, гэта нейкае непаразуменне. Я наогул дысцыпліны ненавіджу, хаця заўсёды ёй падпарадкоўваўся.

*— А выглядала зусім наадварот: надзвычайная пунктуальнасць, сістэматычнасць, акуратнасць і дакладнасць.*

— Навучылі ў войску, а папраўдзе дык я ў маладосці фасцынаваўся Крапоткіным, анархістамі. Іх у савецкіх фільмах паказвалі адмоўна, а мне якраз падабаўся іх лозунг: „Анархия — мать порядка".

*— То ў сённяшнія часы ты павінен адчуваць сябе дасканала!*

— На жаль, чужы сярод сваіх. Калі хочаш быць непадпарадкаваны нікому, незалежны, то будзеш чужы кожнаму. У пераломных момантах заўсёды ёсць нейкія два бакі, а ты адчуваеш, што знаходзішся ў нейтральнай паласе і можаш у любы момант спадзявацца лупня з кожнага боку!

*— Нягледзячы на тваё анархістычныя тэндэнцыі, неяк табе ўдалося ў 1956 годзе стварыць „Ніву" і 32 гады нязменна кіраваць ёю. Не здарылася, каб за гэтыя гады не выйшаў ці спазніўся нейкі нумар „Нівы".*

— Я не планаваў тырчэць на гэтай пасадзе 32 гады. Я хацеў пісаць, але як ужо ўлез у гэтыя аглоблі, дык не патрапіў выпрагчыся. Тое, што я перайшоў у „Ніву", спаліла за мной усе масты. Былыя сябры ад мяне адвярнуліся. Зрэшты, хутка я зразумеў, што маё месца тут, і перастаў думаць пра вяртанне ў польскую прэсу. А мо проста ўжо баяўся стаць „выконваючым абавязкі" паляка...

*—Ты хадзіў уласнымі дарогамі, настаўніка не было. Сказалі, што маеш арганізаваць „Ніву" і ты ўзяўся ствараць яе з нічога. Што тады дапамагло табе?*

— Відаць, ад пачатку ствараць лягчэй. Калі нараджаецца дзіця, то яго таксама лягчэй адразу выхоўваць, чым, скажам, узятага на выхаванне гадаванца.

*— То Яўгену Мірановічу сёння цяжэй?! У яго ж столькі дарадчыкаў — прошаных і няпрошаных, прытым застаў гатовы калектыў, газету з традыцыямі...*

— Вось менавіта. Застаў ужо змантаваны калектыў, да якога мусіць дастасавацца, а я сам сабе падбіраў людзей да працы. Мірановічу значна цяжэй у гэтых адносінах.

*— Пяць гадоў ты на пенсіі. Ці паспеў ужо адпачыць?*

— Я на пенсію не пайшоў адпачываць, а наганяць упушчанае.

*— Вынікі, як вядома, някепскія.*

— Ну, што ж, выдаў зборнік сваіх вершаў „Рознагоддзе", нататкі рэдактара „Віры", а таксама альманах „Белавежа" і польска-беларускую анталогію „белавежцаў" „Гасцінец". У Белавежы пасадзіў сад і крыху лесу. У даны момант ліквідую чытацкія прагалы.

☞ *Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W projekcie budżetu miasta Białystok na 1993 rok przewiduje się, iż wydatki na Izbę Wytrzeźwień pochłoną ponad miliard złotych, zaś na sport szkolny i młodzieżowy około 650 mln złotych.*

*I słusznie, pijaków w Białymstoku przecież więcej niż sportowców.*

*(Gazeta Współczesna, nr 40)*

Справа хіба ў тым, што выцвярэзнік — інвестыцыя, якая гарантуе амаль імгненны зварот накладаў. Ноч у ім каштуе кліента 800 тысяч злотых. Двары уік-энды — і бюджэт горада аджыве. А што дасць школьны і маладзёжны спорт? Магчыма, пару спартсменаў, якія, чаго добрага, піць не будуць недзе да 30 гадоў, і ніякага даходу гораду не дадуць...

* * *

*Istnieje u nas potworna obłuda i fałszowanie rzeczywistości. Mówi się, że swoboda seksualna prowadzi do zdziczenia obyczajów. Przecież to wierutne kłamstwo, na poparcie którego nie ma żadnych dowodów. Są natomiast dowody całkiem przeciwne. W Belgii i Holandii seks jest czymś tak normalnym jak powietrze i woda. A są to kraje najkulturalniejsze z kulturalnych, o najmniejszej ilości przestępstw. Prawidłowość jest taka, że im większe obostrzenia, tym większe zdziczenie. W Polsce i Irlandii ilość gwałtów na liczbę ludności jest największa w Europie.*

*(Gazeta Współczesna, nr 40)*

O, panowie! Komu wy zarzucacie kłamstwo, „Niwa" was się pyta?! My, w każdym razie, umywamy ręce. W Holandii jest depresja.

* * *

*W kraju coraz bardziej rozwija się uliczna konkurencja domów publicznych. Masowo do tego interesu włączają się Rosjanki, Ukrainki czy Białorusinki. W obronie przed tą inwazją jak również przed wyzyskiem, a także z myślą o zapewnieniu sobie bezpieczeństwa socjalnego polskie prostytutki dążą do zawiązania stowarzyszenia zawodowego.*

*Będzie wesoło, jak pogotowie seksualne ogłosi pogotowie strajkowe.*

*(Gazeta Współczesna, nr 40)*

Не бэндзе вэсоло. „Салідарнасць" цяпер нікога не цікавіць.

* * *

***— Барыс, Іванавіч вы пісалі пра тое, што Францішак Кушаль быў агентам савецкай разведкі. На падставе чаго вы зрабілі такую высновy?***

***— Мне трапілі ў рукі матэрыялы, якія былі надрукаваныя ў Англіі ў 1947 годзе, дзе пра многіх дзеячаў нашай эміграцыі — Кушаля, Абрамчыка, Астроўскага, Адамовіча, Калубовіча і іншых былі даволі цікавыя звесткі. Хаця я і не ўспрымаю ўсё, напісанае там, як абсалютную праўду. Аднак працэнт гэтай праўды там даволі вялікі.***

*(Звязда, н-р 20, інтэрв'ю з Барысам Іванавічам Сачанкам)*

Мы ўпэўненыя ў тым, што ў савецкіх архівах ёсць матэрыялы, надрукаваныя ў 1932 годзе ў Сіяме, у якіх сцвярджаецца, што Гітлер быў савецкім агентам. Працэнт праўды ў іх яшчэ большы.

* * *

***— Якія будуць вашыя першыя практычныя захады пасьля рэгістрацыі?***

***— Па-першае, трэба распачаць масавае выданьне статуту нашай партыі. Безумоўна, думаем выдаваць сваю газету. Будзем спрабаваць уплываць на розных адказных асобаў на Беласточчыне, каб яны на самай справе дапамаглі беларусам у іх нацыянальным адраджэньні. Да таго ж будзем абавязкова супрацоўнічаць з беларускімі ліцэямі, каб яны не былі школаю атлумліваньня беларусаў, як гэта было і ёсьць зараз.***

*(Пагоня, н-р 4, інтэрв'ю з Яцкам Пракапюком, студэнтам палітычных навук, стваральнікам беларускай ультра-правай нацыянал-ліберальнай партыі ў Польшчы)*

Яцак! Ї гэта мае быць беларуская партыя?! А бадай ты скіс у сваім ультраправым лібералізме. Будзем спрабаваць зрабіць усё магчымае, каб прачытаць той статут.

* * *

*Дзе ў Грузіі возьмуць рублі для Беларусі?*

*(Звязда, н-р 19)*

Грузія выйшла з рублёвай зоны. Але падчас сенакосаў ёсць шанцы рэквіраваць крыху рублёў, як нам здаецца.




**Урад Вялікабрытаніі** прызначыць 75 мільёнаў доляраў як дапамогу для праекта рэфармавання польскіх дзяржаўных банкаў — заявіў брытанскі прэм'ер-міністр **Джон Мейджэр** пасля перагавораў з нашай прэм'ер-міністр **Ганнай Сухоцкай** у Лондане. Далейшыя 25 мільёнаў будуць адведзены на тэхнічную дапамогу для гэтага праекта.

**Міністр нацыянальнай абароны Януш Анышкевіч** прабываў з афіцыйным візітам у Брусэлі, дзе падпісаў пагадненне аб мілітарным супрацоўніцтве з Бельгіяй.

**Чэслаў Мілаш**, польскі паэт, які пражывае ў ЗША, лаўрэат Нобелеўскай прэміі звярнуўся да амерыканскага ўрада з заклікам не ліквідаваць радыёстанцыі **„Вольная Еўропа"** і **„Свабода"**. Паводле яго ў посткамуністычных краінах Сярэдняй і Усходняй Еўропы ў далейшым існуе пагроза маніпуляцый сродкамі масавай інфармацыі.

**Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі** патрабуе 75-працэнтнай кампенсацыі ў выпадку павышэння цэнаў на спажывецкія артыкулы і жыллёва-камунальныя аплаты, якія запланавана ўвесці ў сакавіку г.г.

**Баставалі віленскія пракуроры**, якія патрабуюць павысіць ім месячную зарплату з 7-8 тысяч талонаў (20 доляраў ЗША) на 37 тысяч. Галоўная пракуратура Літвы пачала перагаворы з бастуючымі.

**Агульны сход дэлегатаў прафсаюза „Салідарнасць"** Беластоцкага рэгіёна ў адной з прынятых пастаноў сцвярджае, што будзе супрацьставіцца спробам пераўтварыць „Газету Вспулчэсну" ў орган левай партыі і прапануе стварыць праграмную раду, якая наглядала б за палітычнай незалежнасцю газеты. Звяно прафсаюза „Салідарнасць" пры выдавецтве „Крэсы БГ" рашуча выказалася супраць гэтай пастановы і палічыла яе як спробу ўвесці палітычную цэнзуру газеты.

**У Белавежы** адбылася сустрэча кіраўніцтва Галоўнай мытнай управы з дырэктарамі мытняў з усёй краіны. Прысвечана яна была камп'ютэрызацыі і неабходнасці стварэння суцэльнай сістэмы збірання і перадачы інфармацыі. Гаспадар сустрэчы — дырэктар мытні ў Кузніцы-Беластоцкай, **Ян Кавальчык** сказаў: „Мытныя службы вымушаны працаваць хутка, спраўна і па-сучаснаму. Неўзабаве ў мытных законах і імпартным тарыфе многае зменіцца. Тым часам нашае цяперашняе аснашчэнне, а менавіта сродкі сувязі, прылады і апаратура, між іншым дэтэктары для выяўлення радыеактыўных матэрыялаў, транспарт і кадры — не забяспечваюць нашых патрэб. У нашым рэгіёне, на граніцы з Літвой і Беларуссю, трэба нам 175 штатаў, бо лік кантрольна-прапускных пунктаў будзе павялічвацца. На КПП Кузніца — Брузгі з 15 сакавіка г.г. уводзім суцольны пашпартна-мытны кантроль, што дабавіць нам дадатковых абавязкаў, але скароціць чэргі перад гранічным шлагбаўмам".

**Амаль 5300 чалавек**, галоўным чынам грамадзян краін былога СССР, былі вернуты назад польскімі службамі на граніцы з Літвой і Беларуссю. У большасці з іх былі фальшывыя запрашэнні, а ў 119 турыстаў — фальшывыя пашпарты.

**З 15 сакавіка г.г.** пачынае працу чарговы кантрольна-прапускны пункт на польска-беларускай граніцы, у **Баброўніках**, на якім будуць адпраўляцца толькі грузавыя аўтамашыны.




- З'езд БАСу і "Белавежы".
- Каляровы свет Тамары Тарасевіч.
- Свята незалежнасці Беларусі.
- Для адных Ленін гэта д'ябал, для другіх — усё яшчэ святы.

<u>Віншуем!</u>

**ГЕОРГІЮ ВАЛКАВЫЦКАМУ — 70**

13 сакавіка сустракае сваё 70-годдзе заснавальнік „Нівы" і яе шматгадовы рэдактар Георгій Валкавыцкі. Рэдакцыйны калектыў шчыра віншуе Юбіляра, жадае яму моцнага здароўя і новых творчых поспехаў на журналісцкай і паэтычнай ніве.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**СУПРАЦЬ ЧАРНОБЫЛЯ — ТАЛАКОЙ**

З мая па верасень 1993 года плануецца абследаванне раёнаў Гомельскай вобласці. Урад ФРГ паабяцаў выдзяліць для гэтай праграмы 7 мільёнаў нямецкіх марак, якія пойдуць на забеспячэнне пастаўкі вымяральнай тэхнікі.

Акцыя па вызначэнню радыяцыйнай нагрузкі на насельніцтва і навакольнае асяроддзе на тэрыторыях Беларусі, што пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС дасць магчымасць параўнаць даныя аб забруджванні, якія маюць Дзяржаўны камітэт па Чарнобылю і Міністэрства экалогіі, аховы навакольнага асяроддзя і бяспекі атамных рэактараў ФРГ. Дарэчы, такое ж абследаванне праводзілася ў 1992 годзе і каштавала 3 мільёны нямецкіх марак.

**АБЯЦАНАГА... КОЛЬКІ ЧАКАЦЬ?**

Мінулай восенню беларускія і казахскія кіраўнікі падпісалі пагадненне аб пастаўцы на Беларусь з ураджаю 1992 года 5 мільёнаў тон пшаніцы. Узамен беларусы паспяшаліся прадаць па даволі нізкіх цэнах славутыя беларускія трактары і... засталіся з носам, бо аб'ём паставак пакуль вельмі сціплы — 232 тысячы тон.

Гульня ў абяцанкі можа адмоўна адгукнуцца на эканамічным становішчы ў рэспубліцы, тым больш, што прамаруджванне паставак прывяло да значнага росту цэнаў на пшаніцу. Калі ў кастрычніку трэба было плаціць за 1 кілаграм 40-45 рублёў, то зараз з улікам інфляцыі гэта складае ўжо 65-70 рублёў.

**ЯШЧЭ ЖЫВЫЯ РЫЦАРЫ**

Не дзе-небудзь за морам, а ў сталіцы Беларусі пад апекай „Выбранецкіх шыхтоў" адкрыты клуб беларускіх рыцараў для хлопцаў 10-13 гадоў.

У праграме навучання: гісторыя беларускага рыцарства, беларускай зброі, выраб рыцарскага рыштунку, танцы.

Умельства змагацца будзе праэкзаменавана ўжо ў канцы красавіка на турніры ў Лошыцы, а ў траўні першых беларускіх рыцараў XXI стагоддзя ў Мірскім замку прывядуць да прысягі.

**ЗАМАК РАДЗІВІЛАЎ — У РЭЗІДЭНЦЫЮ ПРЭМ'ЕРА?**

Прыняты на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў праект Закона аб музеях у Рэспубліцы Беларусь абяцае старому Нясвіжу адраджэнне. Ёсць прапанова размясціць у гэтым дзяржаўным музеі-помніку ўрадавую рэзідэнцыю.

**ВОСЬ ВАМ, ВОЛЬНЫЯ ГРАМАДЗЯНЕ І ЮР'ЕЎ ДЗЕНЬ!**

Адпаведнымі структурамі Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў рэспублікі распрацаваны праект закона аб праве грамадзян Беларусі на свабодны выбар і перамену месца жыхарства. Аднак разглядацца ў Вярхоўным Савеце ён будзе толькі ў 1994 годзе, а пакуль прадпрыемству, якое жадае прапісаць у Менску патрэбнага работніка, прыйдзецца ўзбагачаць гарадскую казну не на 16, як раней, а на 600 тысяч рублёў.

Пакінута, праўда і такі выхад, што калі ўдасца даказаць, што такіх „прафесіяналаў" сярод беспрацоўных сталіцы няма, можна прапісваць работніка задарма.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# СУСТРЭЧА З КОНСУЛАМ

На 18 лютага ў Беластоку запланаваны быў візіт консула Рэспублікі Беларусь Міхала Аляксейчыка. Спачатку павінен быў ён дзяжурыць у Ваяводскай управе, а потым меўся сустрэцца са слухачамі Беластоцкага радыё. Планы крыху памяняліся з-за дарожнай аварыі, у якую — 30 кіламетраў ад Беластока — трапіла аўтамашына спадара консула. Машына была поўнасцю разбітая, але, на шчасце, нічога дрэннага не сталася людзям, хаця консулу давялося пабываць у шпіталі, дзе яму прынеслі медыцынскую дапамогу.

Выручыў яго ў той час, прымаючы беластаччан, сакратар беларускага пасольства Уладзімір Каральчук. Па радыё выступілі яны ўжо ўдвух, аднак праграму давялося скарачаць, паколькі беларускім дыпламатам давялося вяртацца ў Варшаву на іншым транспарце.

Жыхары Беласточчыны, так падчас сустрэчы ў Ваяводскай управе, як і пры радыёпрыёмніках, цікавіліся перш за ўсё дзвюма справамі: кампенсацыяй за пакінутую на Беларусі маёмасць і магчымасцю свабодна пераязджаць дзяржаўную мяжу.

Міхал Аляксейчык, як правіла, прыхільна ставіўся да ўсіх просьбаў і абяцаў асабіста заангажавацца ў вырашэнне складаных пытанняў, прынамсі да часу адкрыцця ў Беластоку беларускага консульства.

Консульства такое павінна пачаць працу ўжо ў бліжэйшыя месяцы, а вопыт дзвюх апошніх сустрэч паказвае, што спраў яму хопіць.

**ак**

 

# ЧАС УСЁ РАССТАВІЦЬ ПА СВАЇХ МЕСЦАХ

*Працяг са стар. 1*

*— Тваё „Віры“ проста ашарашылі асяроддзе. Многім маладым гэта віраванне адкрыла вочы на ўсю складанасць працы на беларускай ніве ў які б то не было перыяд. Некаторыя чытачы тваіх успамінаў вельмі дзівіліся, што функцыя галоўнага рэдактара такая цярністая. Як вядома, на гэту пасаду ў нас заўсёды было больш кандыдатаў, чым месц. Не ўяўлялі сабе працы?!*

— Так! І не толькі тыя, што лічылі сябе „кандыдатамі“. Нават рэдактары суседніх газет зайздросцілі. Над імі заўсёды вісеў камітэт. Ім здавалася, што мы купаемся ў грошах, якія плывуць да нас з розных бакоў, і наогул ім уяўлялася, што ў тыднёвіку — райскае жыццё.

*— Якое яно было райскае — ты вельмі дакладна выявіў у сваіх „Вірах“. Адной эпісталярнай творчасці (кіраванай у розны перыяд, але ў адзін бок — у бок камітэта), на якую не шкадавалі свайго таленту некаторыя калегі па пяру, хапіла б, каб страціць ахвоту да ўсяго...*

— Ды і наогул Усход лічыў, што беларускі рух у нас — гэта польская інтрыга, а палякі — што руская. Працаваць у такіх умовах было надзвычай цяжка. На Захадзе той-сёй нават лічыў, што мы — філіял „Голасу Радзімы“. А нас там нават прызнаваць не хацелі.

*— Дзіва! У 1957 годзе „Ніва“ адкрыла для чытача Алеся Гаруна, пазней — братоў Івана і Антона Луцкевічаў і цэлую плеяду „беларускіх буржуазных нацыяналістаў“! Аднак жа „Ніва“ рабіла не толькі „варожую“ паводле некаторых чыноўнікаў з Менска работу (вылезла гэта газеце бокам: падпіску на „Ніву“ там штораз спынялі), але і гуртавала вакол рэдакцыі беларускую літаратурную моладзь. Колькі ты папрацаваў з маладымі творцамі, калі бачыў хоць бы іскрынку таленту! Ты карэспандаваў з імі, запрашаў у рэдакцыю, заахвочваў, выпраўляў. Табе менавіта літаб'яднанне „Белавежа“ абавязана сваім існаваннем.*

— А ведаеш, мяне ва ўсім гэтым цешылі адносіны моладзі да „Нівы“. Вось і нядаўна Янка Чыквін успамінаў у адным з артыкулаў, што „Ніва“ была для яго крыніцай ведаў пра Беларушчыну, дала яму беларускую свядомасць. У беларускіх жа ліцэях беларуская нацыянальная адукацыя не вязлася. І не вядзецца, на жаль...

*— Вось мы так сядзім і гутарым сёння ў колішнім тваім пакоі, які ўступіў нам на сёння гасцінны Яўген Мірановіч, і я не магу ўявіць сабе, што святкуем твой 70-гадовы юбілей. Фактычна „Ніве“ ты аддаў маладосць, талент, здароўе, нямат жыцця прызначыўшы на звычайныя зямныя радасці. Калісьці нам было нават няўцям, што „Ніва“ можа існаваць без Валкавыцкага. Аднак жа існуе. Дык як было, а як ёсць цяпер?*

— Не хочацца гаварыць крытычна пра сябе і не выпадае крытыкаваць „Ніву“!

*— А рабіць наадварот няма сэнсу?!.*

— Прыйшло новае пакаленне, які ж сэнс крытыкаваць! Цябе ўсе слухаюць уважна, а робяць дакладна наадварот. Здаецца, спантанна, можа нават не разумеючы, яны знайшлі добрую дарогу, даўшы „Ніве“ падзагаловак „Тыднёвік беларусаў у Польшчы“. Гэта забавязвае. Праўда, пакуль што гэта толькі імкненні. Чытачы аб гэтым вырашаць. Відаць гэта будзе па тыражы, па чытацтве.

*— Ці газета можа быць цалкам незалежнай?*

— Ні ў якім выпадку. Калі яна ўнезалежніцца ад нейкай арганізацыі ці партыі, дык будзе залежная ад спонсара. Калі ўнезалежніцца ад спонсара, будзе залежаць ад чытачоў. „Ніва“ пакуль што толькі хоча быць газетай усіх беларусаў у Польшчы. Трэба выходзіць не з вузкай пазіцыі, трэба вывучаць чытача. Трэба лічыцца з ім, з яго думкамі.

*— Няма ў цябе „ні функцый, ні заданняў“ — чытай і крытыкуй! Мо з пазіцыі свабоднага чалавека свет выглядае больш ружовы, а „Ніва“ прыгажэйшая?*

— Свет наогул цёмны.

*— А ўсё ж што ты лічыш за найважнейшае тваё здзяйсненне ў „Ніве“?*

— Цяжкое пытанне. Лягчэй было б адказаць, чаго не здзейсніў.

*— А чаго?*

— Калі бачу гэту варажнечу, самаедства, адчуваю, што ў гэтым і мая віна. Замала зрабілі, каб выкараніць гэты самаедскі інстынкт.

*— Натуральнае права прыроды — абарона ўласнага дому...*

— І каб не было, як у той сцэнцы з цыкла „Прытчы і метафары“ Янкі Сіпакова. Сюжэт амаль біблейны. Ідзе грамада людзей. Ідзе і ідзе. Герой твора ўглядаецца ў гэты натоўп і таксама далучаецца да іх. Ідзе дзень, другі. Урэшце пытаецца: „Людзі, куды вы ідзеце?“

— Адказваюць: „Наперад!“ „А чаго шукаеце?“ — „Сябе!“

*— Тваё апошняе слова?*

— Маладыя — усёведныя і адзінаправедныя „ватыканскія дэсантнікі“! Не распінайце дзеячоў БГКТ! Хіба вам чужыя хрысціянскія вартасці?!

А зрэшты, час усё расставіць па сваіх месцах...

*— Сардэчна дзякую за размову. Ад імя ўсяго калектыву зычу добрага здароўя, пастаяннага супрацоўніцтва з „Нівай“ і... больш ружовага бачання свету на доўгія гады.*

**Гутарыла і фатаграфавала АДА ЧАЧУГА**



*Былы рэдактар "Нівы" Георгій Валкавыцкі /справа/ ў размове з новым рэдактарам Яўгенам Мірановічам.*

# БАЗАР ЦІ КАНТРАКТЫ?

Усе мы ўжо як бы зжыліся з тым, што гандаль Польшчы з яе ўсходнімі суседзямі праходзіць на базарах. Неяк так склалася, што пасля ўсталявання капіталізму ў Польшчы і незалежнасці ў Беларусі самай выгоднай формай пастаўкі тавараў з'яўляюцца турыстычныя торбы. Дачакаліся мы нават мафіі, якая па-свойму спрабуе гэты гандаль арганізаваць.

Крокам, які мае прыдаць гандлёвым кантактам Польшчы з яе ўсходнімі суседзямі афіцыйна-цывілізаваную форму быў Міжнародны тэкстыльны кірмаш, які прайшоў у Беластоку ў днях 24-26 лютага гэтага года. У спартыўнай зале Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, на блізка 500 квадратных метрах плошчы, свае тавары паказалі 18 прадпрыемстваў з Беларусі і каля 50 польскіх фірмаў. Арганізатарамі імпрэзы былі суполкі "Lech" і "Ito" ды Канцэрн лёгкай прамысловасці з Менска. Спадзяемся, сцвердзілі арганізатары, што такія кірмашы будуць рэальным крокам на шляху фармавання ў Беластоку асяродка лучнасці фірмаў Усходу і Захаду. Не без значэння тут і той факт, што кірмашы могуць запачаткаваць публічную дыскусію над магчымасцямі выкарыстання геаграфічнага палажэння Беластока дзеля ажыўлення гаспадарчых працэсаў, якія праходзяць у ваяводстве. Арганізатары лічаць таксама, што з увагі на гістарычную традыцыю горада ў развіцці тэкстыльнай прамысловасці ўдасца ім наладжваць перыядычныя сустрэчы вытворцаў і гандлёўцаў гэтай дзялянкі прамысловасці. У будучым выпуску кірмашоў арганізатары спадзяюцца на зацікаўленасць імі фірмамі з Заходняй Еўропы і краін Садружнасці. У гэтым годзе кірмаш арганізаваўся без датацый.

А якія спадзяванні беларускага боку ад гэтай імпрэзы, запыталі журналісты прадстаўніка міністэрства ўнутранага гандлю Беларусі на прэсавай канферэнцыі. Мы рэалісты, адказаў той, не спадзяёмся, што гэты кірмаш прынясе заўважальныя ад зараз вынікі. Імпрэзу гэту лічым як важны для нас крок у пераходзе ад сацыялістычнай планавай эканомікі да рынку.

У агульным прэсавая канферэнцыя беластоцкага Міжнароднага тэкстыльнага кірмашу пакінула сумнаватае ўражанне. У прынцыпе паміж польскімі і беларускімі вытворцамі ды гандлёўцамі ёсць згода - "давайце будзем гандляваць". Беластоцкая і беларуская лёгкая прамысловасці прысуджаныя на супрацоўніцтва з сабою - іначай ім няма куды дзецца. Разыходжанні аднак узнікаюць на ўзроўні дэталёвай распрацоўкі кантрактаў - у сітуацыі, калі існуе вялікая розніца ў цэнах тавараў адзіным выйсцем ёсць бартэрны абмен, а гэта не падыходзіць польскім фірмам з тае прычыны, што часта нельга дамовіцца адносна выбару тавараў. Дырэктар беластоцкіх "Фастаў" падказаў тут, што пэўным выхадам з'яўляецца злучаны бартэр - паміж фірмай з Польшчы і некалькімі беларускімі фірмамі.

У маім адчуванні аднак, мяркую тут паводле падслуханых неафіцыйных размоў, разыходжанні гэтыя больш прынцыповыя. Беларускія вытворцы не ўмеюць звычайна павесці самастойную палітыку ў сваіх прадпрыемствах, не навучыліся яшчэ гандляваць на ўзроўні прадпрыемстваў без агляду на Менск ці Маскву. Польскія фірмы даўно зламалі гэты бар'ер - іх цікавяць выключна канкрэты: як адчыніць у Беларусі гуртоўню /аптовы склад/ ці можна і якім чынам пераводзіць валюту з беларускага ў польскі банк ды гэтаму падобнае. Калі ўсе дакументы аформлены як трэба, адказвалі іхнія беларускія партнёры, юрыдычных перашкод няма. Што аднак абазначае "аформіць дакументы як трэба" - сумняваюся, ці хто-колечы тут, ці там ведае.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## АД ГІМНАСТЫЧНАЙ ЗАЛЫ НЕ АДМОВІЛІСЯ

Пачатковая школа ў Белавежы тры з паловай гады назад атрымала новы, пышны будынак. Белавежцы думалі збудаваць адным махам і гімнастычную залу. На жаль, на гэтую надта патрэбную інвестыцыю не хапіла ўжо сродкаў. Усё ж такі жыхары мястэчка не паклалі рук і ад пабудовы не адмовіліся. Тым больш, што мелі ўжо апрацаваную дакументацыю будовы і крыху будаўнічага матэрыялу.

У 1991 г. узнік Грамадскі камітэт пабудовы гімнастычнай залы з мэтай памагаць дырэкцыі школы і адміністрацыі накопліваць сродкі на будову, а таксама давесці да рэалізацыі гэтай інвестыцыі.

Камітэт рознымі спосабамі прапагандуе ідэю будовы залы, не толькі сярод мясцовага грамадства, але і на шырэйшым форуме /маюцца тут на ўвазе радыёперадачы, артыкулы ў прэсе, лісты-прапановы патэнцыяльным спонсарам/.

Разгарнулася таксама прапанова ўручання замежным турыстам, наведваючым Белавежскую пушчу, спецыяльных лістовак. Яна ўжо прынесла нейкі эфект у форме больш шчодрых ахвяраванняў у спецыяльныя скарбонкі ў Прыродазнаўчым музеі і ў доме ПТТК.

Школа зарабляе грошы пазычаючы прылады для тэніса і корт. Падчас спартыўна-рэкрэацыйнага мітынгу прадаваліся спецыяльныя "цаглінкі". Выйшлі таксма паштоўкі. Іх першы, пяцітысячны тыраж ужо амаль цалкам распрададзены, другі трапіў нядаўна ў продаж. Аўтарамі малюнкаў на паштоўках з'яўляюцца М. Вашкевіч, Л. Вільчэк, Е. М. Гутоўскі і Л. Свентахоўскі.

Грамадскім чынам збудаваны дашак, які забяспечвае частку будаўнічых матэрыялаў прызначаных на залу /белавежскае надлясніцтва для гэтай мэты дало бясплатна бляху/. Дарэчы, на пляцы будовы ляжаць матэрыялы вартасцю ў 1 мільярд злотых; хопіць яго на т. зв. сыры стан. У мінулым годзе прывезена ад вытворцы частку апорнай канструкцыі залы.

У канцы 1992 г. на рахунку будовы было каля 64 мільёнаў злотых. Вядома, што сума гэтая далёка недастатковая. На просьбу дафінансаваць будову, накіраваную Куратару асветы і выхавання ў Беластоку, прыйшоў адказ, што будзе гэта магчымае пасля 1993 г. Падобная просьба была накіравана Міністру нацыянальнай адукацыі.

Усё ж такі на сходзе з удзелам Праўлення гміны Белавежа, які адбыўся ў верасні 1992 г., вынесена рашэнне, што пабудова распачнецца вясною 1993 г. У найгоршым выпадку, у 1993 г. будзе збудаваны толькі фундамент; на гэта хопіць уласных сродкаў Камітэта і Гміны. Працы будзе выконваць будаўнічая фірма. Камітэт разлічвае таксама на дапамогу мясцовых устаноў, прадпрыемстваў і, вядома, жыхароў.

Прадпрыемствы ці асобы, якія захочуць дапамагчы ў пабудове залы, могуць пералічваць грошы на рахунак: Komitet Rodzicielski przy Szkole Podstawowej w Białowieży, Bank Spółdzielczy w Białowieży, Nr 905510-534-2710, з прыпіскай "na budowę sali gimnastycznej".

**ПЁТР БАЙКО**



 

## НАША "НЕЛЕГАЛЬНАСЦЬ" СКОНЧЫЛАСЯ

Працяг са стар. 1

рэгістрацыі тыднёвіка пацягнула Праграмная рада, выконваючы неабходную працу і за рэдакцыю, і за БГКТ.

Калі самі беларусы кідаюць сабе калоды пад ногі, дык нельга спадзявацца, што іншыя расчысцяць ім дарогу. Месяцы два заняла Праграмнай радзе рэгістрацыя ейнага статута. А потым пачалася рэгістрацыя „Нівы". Рашэнне суда першай ступені было непрыхільнае — нягледзячы на прадстаўленыя заявы волі як Міністра культуры і мастацтва, гэтак і старшыні Ліквідацыйнай камісіі, якія давалі згоду на пераход выдавецкіх правоў на Праграмную раду, Ваяводскі суд рэгістрацыі не зрабіў. Маўляў, патрэбны тут нейкі больш важны дакумент, чымсьці згодная воля ўсіх трох бакоў: спонсара, папярэдняга выдаўца і рэдакцыі. Вырашэнне, што і казаць, было парадаксальнае: каб зарэгістраваць „Ніву", трэба было б найначай як уваскрэсіць выдавецкую суполку *Prasa-Książka-Ruch* і аформіць той дакумент (або пры дапамозе машыны часу перанесціся ў 1989 год і зрабіць тое самае). Праграмная рада тыднёвіка „Ніва" абскардзіла гэтае рашэнне ў Апеляцыйным судзе і справу выйграла: 25 лютага Апеляцыйны суд адмяніў пастанову Ваяводскага суда і зарэгістраваў нашу газету. Можна сказаць, здаровы розум узяў верх над юрыдычнай казуістыкай.

Каб дапоўніць гэтую карціну рэгістрацыйнае валакіты па судах, дадам, што з юрыдычнай дакументацыі „Нівы" за папярэднія 35 гадоў (калі выдаўцом была Работніцкая выдавецкая суполка *Prasa-Książka-Ruch*) не засталося амаль нічога — усяго дзве паперыны: адна з іх з'яўляецца дазволам на ўзнаўленне выдавання газеты ў ваенным становішчы ў 1982 годзе, а другая — просьбай беластоцкага аддзела РВС *Prasa-Książka-Ruch* аб вырэгістраванні „Нівы" як ейнага выдання. І ўсё! Мы былі, а як быццам нас не было. Куды дзелася папка з папярэдняй дакументацыяй „Нівы" — невядома. Магчыма, пайшла ў смецце з іншай макулатурай былой цэнзуры; магчыма, трапіла на паліцу ва ўправу, куды людзі наогул па сваёй ахвоце не ходзяць. Як бы яно ні было, за апошнія восем месяцаў Праграмная рада настварала ладны стос новай дакументацыі, пакуль вывела газету са сляпога завулка, у якім яна апынулася, не буду скрываць, па волі саміх кіраўнікоў беларускага руху ў Польшчы.

У гэтым месцы дарэчы будзе падзякаваць юрысту Пятру Юшчуку, які выдатна дапамог Праграмнай радзе і рэдакцыі аформіць рэгістрацыю газеты, не патрабуючы сабе аніякай фінансавай кампенсацыі за прысвечаны час і ўкладзены высілак.

Колькі думак на заканчэнне.

Справа „Нівы" наяўна паказала сутнасць дуалізму беларускага арганізаванага руху ў Польшчы. У нас, як усё - са спазненнем, выйшаў навонкі і адвечны канфлікт маладыя — старыя, які наспяваў ужо ў 80-тыя гады, калі ствараліся новыя праявы беларускага руху: студэнцкае згуртаванне, потым першыя спробы самастойнай палітычнай актыўнасці. Рухавіком гэтых новых праяваў была моладзь, якой зацесна (а то і ўвогуле няўтульна) даводзілася ў раней запушчанай у рух структуры БГКТ. Дэмакратызацыя ў нас пайшла не ў глыб (як, прыкладам, ва ўкраінцаў, якія рэарганізавалі сваё УГКТ у Аб'яднанне ўкраінцаў), а ў бакі — паралельна да БГКТ узніклі арганізацыі, якія далі прастор для дзейнасці моладзі. „Ніва" адмаладзілася (і дэмакратызавалася) натуральным шляхам, бо старэйшыя журналісты пайшлі на пенсіі. Відавочна так мусіла быць. БГКТ страціла шанц на дэмакратызацыю ў 1990-91 г.г., калі было матэрыяльна някепска забяспечанае і, што важней, калі яшчэ былі маладыя, якім хацелася ў ім дзейнічаць. Цяперака няма ні аднаго, ні другога. Нікому ў беларускім асяроддзі, уключна з кіраўніцтвам БГКТ, не залежыць на рэарганізацыі гэтай арганізацыі (прабачце каламбур). Мяне заўсёды развясельваюць разважанні старэйшых дзеячоў наконт істоты канфлікту: маўляў, Яновіч падбухторыў моладзь супроць Баршчэўскага, або нейкі падобны ідыятызм, прыкладам, моладзь наўмысна нішчыць БГКТ і беларускую культуру, сама нічога не стварыўшы. Зусім выпускаецца з-пад увагі, так сказаць, натуру маладосці: маладосць шукае рэчышча, у якім можа скарыстаць сваю энергію, а не кутка, дзе яе паставяць маліцца на нейкага ідала і ўсхваляць яго заслугі. Рэч, пэўна, несправядлівая для ідалаў, але яна ўведзена ў закон прыроды. Калі хто гэтае зразумее, то мусіць таксама разумець, што маладым беларусам наогул да лямпачкі тое, што думае Баршчэўскі пра Яновіча і vice versa. І таксама тое, якія ў іх заслугі. Калі ты, дзядзьку, на першы план выпіраеш сваё пуза, за якім ужо няма месца для маладых, то пайшоў ты... ведаеш куды. У гонар Яновічу трэба сказаць, што ён гэтую несправядлівасць прыроды зразумеў і зрабіў тое, што зрабіў: даўся выкарыстацца маладым, якія за заслонай яго прозвішча і грамадскай пазіцыі сяк-так сарганізаваліся ў БДА і паволі пачалі новы віток на спіралі гісторыі (а яго самога ў нейкім моманце пакінулі, калі ўжо выціснулі ўсе сокі). У гонар Баршчэўскаму на гэты конт нічога не выпадае сказаць, таму што ён сваёй грамадскай пазіцыяй нікому з маладых у нічым не дапамог, а за заслонай яго прозвішча іншыя дзядзькі і цёткі спрабавалі дэзарганізаваць працу адзінай беларускай газеты ў Польшчы. Натуральна, калі б у рэдакцыі працавалі старыя журналісты, удалося б нейкі час дзьмухаць пад вецер і старацца змяніць яго кірунак. Але ўсяго нейкі час. А потым той вецер і так зваліў бы тых дзьмухачоў, рыхтык бы ў анекдоце пра тых пенсіянераў, што выбіраліся на дзеўкі.

Што ж, можна абражацца на маладых і лаяць іх (старыя наогул так робяць у адносінах да маладых, як свет светам), але ж наколькі разумней замест лаянкі пастарацца даць добрую раду. Магчыма, што прыслухаюцца. Маліцца на ідала напэўна не будуць, але, можа, калі-небудзь спамянуць добрым словам. Чаго ж больш чакаць ад жыцця?

**ЯН МАКСІМЮК**

## ФЕНОМЕН

Прачытаўшы меркаванні Алеся Барскага („На мяжы" — частка XXVII, „Ніва" н-р 6), я вельмі здзівіўся, што сённяшняя 55-гадовая жыхарка Менска, якая нарадзілася недалёка Баранавіч, так добра помніць міжваенны час у Польшчы. Падумайце: ёй сёння 55 гадоў, значыць нарадзілася яна дзесьці ў 1937-1938 гадах. Хадзіла яна ў санацыйную школу і добра памятае галечу, якая тады была ў Польшчы. Меўшы два гады жыцця, яна ўсё запомніла! Проста феномен. Феноменам з'яўляецца і тое, што, памятаючы так дакладна польскі санацыйны парадак, яна зусім забыла пазнейшы савецкі. Кланяюся нізка такім феноменам — яны нас не падвядуць.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## НОВЫ ЧАСОПІС У ОЛЬШТЫНЕ

Нядаўна ў Ольштыне пачаў выходзіць новы часопіс „Барусія". Прысвечаны ён праблемам культуры, гісторыі і літаратуры былой Усходняй Прусіі. Дагэтуль выйшла ўжо пяць нумароў, у форме сшыткаў.

Галоўны рэдактар „Барусіі" Казімір Браканецкі выдзяліў чатыры галоўныя блокі матэрыялаў, якія друкуюцца на старонках часопіса:

— палякі і немцы ў новай Еўропе;

— экскурсіі ў Кёнігсберг і Калінінград;

— Вармія і Мазуры ў вачах паэтаў, экалогаў і гісторыкаў;

— паэзія французская, нямецкая, літоўская і польская.

Падборка тэматыкі і аўтараў павінна зрабіць часопіс цікавым, а яго змест павінен глыбока і дакладна пазнаёміць чытача з гісторыяй і актуальнымі праблемамі гэтага рэгіёна. Часопіс змяшчае таксама матэрыялы, прысвечаныя беларускай тэматыцы. У пятым нумары друкаваўся мой артыкул „Быць беларусам". На старонках „Барусіі" Анджэй Вышкоўскі вядзе польска-беларускую хроніку, а Ігар Грыўна піша пра нацыянальныя меншасці ў Польшчы.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ПАМІРАЮЧАЯ ВЁСКА

Працяг са стар. 1

жыло 200-300 чалавек, сёння замяніліся ў скансэн, дзе дамы і іх жыхары выглядаюць як экспанаты з мінулай эпохі. Час затрымаўся тут недзе ў 70-х гадах, калі людзі таўпой кінуліся ў гарады будаваць „lepszą socjalistyczną Polskę". У гмінах Крынкі, Шудзялава, Міхалова, Нурэц, Нарва бывае так, што стаіць у вёсцы 50-60 дамоў, але толькі ў палове з іх хтосьці яшчэ пражывае. А калі сярод такіх пенсіянераў ёсць 4-6 гаспадароў, якім менш чым 60 гадоў, сітуацыя вёскі выглядае даволі аптымістычна.

Там, дзе калісь былі школы, а вакол іх бегалі, як заўсёды вясёлыя дзеці, сёння цішыня, як пасля нейкага катаклізму. Адзіны чалавечы спантанны гук, які можам там пачуць, гэта галасы мясцовых п'яніцаў і няўдачнікаў, якіх нават за камуністаў павыкідалі з працы, са школаў. Гэта ў большасці старыя кавалеры, якім пенсія бацькоў дае магчымасць пражыць некалькі „вясёлых" дзён у падобнай ім кампаніі. Адзінай зменай, якая тут наступіла ў час III Рэчыпаспалітай гэта змена дамінуючага напітку з „манапалёўкі" на „сіні каньяк".

Ніхто ўжо сёння не весяліцца летам на вуліцы, не чуваць рассяпаваных маладых галасоў. Так паціхеньку памірае наша вёска. Зямлю здрадзіў яе народ, які яна карміла. Пайшоў ён служыць чужым панам, а ў ролі камердынера аказаўся проста дасканалым. Свядома адкінуў ён усе сувязі з бацькоўскай спадчынай. Нямала подласці трэба было б, каб затаптаць у сабе ўсё, што дала гэтая зямля і родная маці.

Сёння наша вёска патрэбна ўсім толькі тады, калі пачынаюцца выбары. Галасы пенсіянераў і дэгенератаў таксама важныя, як гарадскіх мафіёзі ці універсітэцкіх прафесараў. Пхаюцца тады да нашых старэчаў усялякіх колераў збаўцы свету, стваральнікі будучага дабрабыту. Беларускія мужыкі паслухаюць кожнага, кожнаму прызнаюць рацыю і галавой памахаюць, захапляючыся мудрасцю „паноў" з вялікага свету. Галасуюць аднак на Валодзьку. Лічаць яго „сваім", добра заканспіраваным беларусам. З'яўляецца ён сімвалам часу, калі адчыненыя былі вароты раю, а магчымасці камердынерскай службы нічым не былі абмежаваны. Валодзька не мусіць нічога рабіць, ні гаварыць, яму хапае толькі быць. Самая яго прысутнасць уводзіць беларускі народ у стан захаплення, а калі яшчэ адазвецца.., дык яго голас як мёд з віном казыча сялянскую душу. „Наш хлопец", „наш саколік" шэпчуць ашаломленыя ад шчасця бабы.

Ад часу прарока Ільі з Грыбоўшчыны ніхто тут не меў такога аўтарытэту.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

САКРАТ ЯНОВІЧ

## ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ /7/

Ля ўваходу стаіць каляровы тэлевізар. Госці не цікавяцца ім, бо не разумеюць славянскай гутаркі - пераважна немцы. Яны паводзяць сябе патурыстычнаму гулліва. І хоць сервіс у "Іслачы" слабенькі, задаволены дарэмшчынаю; курс маркі няшмат ніжэйшы за долара. Ракаўскі вахцёр сказаў мне сенсацыю: нямецкая група наняла ўсю лазню з басейнам, цэлы вечар купаліся ды плавалі голыя бабы з мужчынамі! Лепей, калі паяўляюцца палякі - яны не мыюцца ў распусту, а п'юць у пакоях і дакупляюць поначы гарэлкі...

Тэлебачаннем цікавіцца персанал, калі ёсць крыху вальнейшага яму часу. Глядзяць толькі Маскву, і толькі расійскія навіны. Гэта яшчэ савецкі навык, калі Мінск не вырашаў пра лёс тутэйшага люду. Слухаюць пра падзеі ва Уладзівастоку, у Сібіры, на Урале. Перажываюць, усё роўна што ў непасрэднае дачыненне да іхных заробкаў і кар'еры. Нашто ім гэта? - заходзіў я ў галаву.

Каля мяне ўселася шматпудовая кабета, відаць, кухарка... Чагосьці злосная. Як заўсёды, справа ў грашах. Пакрыўдзілі яе ў выплату!

Заядла гаворыць да мяне па-руску і кляне беларускі ўрад.

Даю ёй іранічную параду:

- Пішыце скаргу ў Маскву!

Аціхла лапатаць. Паглядзела мне ў твар. Устала. Пайшла, фыркаючы.

Да людзей не даходзіць, што ўжо не Расія тут гаспадар. Нічога, памалу дойдзе. Нягледзячы, нават, на тое, што ўсё мала беларускай ходзіць у начальніках. У такім Мінску, напрыклад, у гэтай сталіцы ажно дзевяноста два працэнты кіраўнічай кадры складаюць рускія /мінус ад таго трохі іншых нацыянальнасцяў/. Затое амаль адваротная сітуацыя ў гаспадарчых установах. Такая каланіяльнасць цалкам тлумачыць той дзікі супраціў уводу беларускай мовы ў афіцыйны ўжытак. Нашто расіяку ведаць яе? Загаворыць па-нашаму на службе тады, калі апыніцца пад пагрозаю страты пасады. Не раней.

Рэспубліка Беларусь не можа доўга талераваць рускамоўе. Спадзяванні небеларусаў на ўпадак Беларусі сведчаць аб дзіцячасці іхнай палітычнай думкі.

Дыскусія з такім не мае сэнсу.

Неяк выпадкова адкрыў я спосаб заткнуць рот ідыёту.

- Хочаце, каб вярнулася сюды Расія?

- А что в этом плохого? - адказвае ён пытаннем на маё і ўжо круціцца дакаяць мяне.

- І дзеля гэтага вы згодны перастаць есці танны беларускі хлеб з салам?

Жулік ведае, што ў Маскоўшчыне галадуха. Устае і выходзіць, не сказаўшы хаця б "до свидания".

Асабліва пасля абеду слухаючы радыё, раптам пачуваюся ашаломленым вось якім адкрыццём: у Рэспубліцы Беларусь курчыцца праваслаўе! Надта шпарка пашыраецца пратэстантызм. І то дзе?! Зусім не ў праваслаўна-каталіцкіх акругах ці бо на атэістычным усходзе, але ў царкоўна-звонным Палессі, адвечна руска-верным. Небезвядомы і нам тут, у Беласточчыне, Юрка Рапэцкі - баптыст з беларускай Канады - базуе ўжо ў Мінску і дзейнічае са сваімі аднадумнікамі з сапраўды амерыканскім размахам! Пры тым у духу нацыянальнага патрыятызму, які надзвычай адпавядае інтарэсам яшчэ хісткай Беларускай Дзяржавы. Следам за баптыстамі апамяталіся і ксяндзы: Польшчы ў Беларусі не пабудуеш, дарэмныя намаганні!

Па дурному смешна чуць, як біскуп Сьвёнтэк гаворыць беларускую казань... Мітрапаліт Філарэт, экзарх Усяе Беларусі, пакуль што ўсяго перастаў падкрэсліваць вялікарускасць. Ну, што можна сказаць на гэта? Крыўдна за нашу царкву, што яна так здае свае пазіцыі. Няўжо не бачыць, што Госпад Бог адзін, а за духоўнае права на далучэнне посткамуністычнага чалавека да Яго адбываецца нежартоўная міжканфесійная рывалізацыя?!

/Працяг будзе/

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

**IX.ВЯРТАННІ**

Падзеі пачатку XIX ст. паказвалі выразна на крызіснае становішча уніяцкай Царквы ў Рускай Імперыі. Інтрыгі ордэна базыльянаў і малааду-каванасць значнай часткі святароў падрывалі аўтарытэт гэтай Царквы сярод вернікаў. Паратунак для Царк-вы і яе характару стараліся шукаць не-каторыя асобы ,як вядомы ўжо нам а. Антон Сасноўскі. Але, як паказвае яго прыклад, пэўным прадстаўнікам уніяцкай іерархіі /і не толькі/ зусім не залежала на аздараўленні даверанай ім Царквы. Яны хутчэй за ўсё выкары-стоўвалі яе для сваіх уласных мэтаў.

Відавочныя зрухі ва уніяцкай Царкве пачынаюцца ў канцы 20-х і пачатку 30-х гадоў, разам з узвядзеннем у епіскапскі сан Іосіфа Сямашкі. У Жыровічах, пад кіраўніцтвам будучага архіепіскапа Антонія Зубко пачынае сваю паспяховую дзейнасць Духоўная семінарыя. Ва уніяцкай духоўнай калегіі ў Санкт-Пецярбурзе пачынае на-спяваць ідэя ўз'яднання уніяцкай Царквы з Праваслаўем. Адной з ас-ноўных да таго дарог быў навучальна-выхаваўчы працэс у згаданай Жыровіцкай семінарыі.

З семінарыі выйшлі святары, якія, усвядоміўшы ўсю сутнасць царкоўнай уніі, без асаблівых перашкод у 1839 г. афіцыйна ўз'яднаіся з Праваслаўнай Царквою. Інакш было са старэйшымі святарамі. Выхаваныя ва уніі або рымскім каталіцтве, без асаблівага да-веру адносіліся яны да Праваслаўя, бачачы ў ім не веру продкаў, а палітычны інтарэс дзяржавы.

* * *

Прычын стрыманасці кляшчэ-леўскага настаяцеля а. Антона Сас-ноўскага да ўз'яднання уніяцкай Царквы, адносна цяжка высветліць. 4 ліпеня 1834 г., у час візітацыі кляш-чэлеўскай царквы, епіскап Іосіф Ся-машка не атрымаў падпіскі а. Антона Сасноўскага пад згодай прыняць Праваслаўе. Магчыма, гэты ба-рацьбіт за "чыстую" /артадаксаль-ную/ грэчаска-славянскую уніяцкую Царкву, да канца сваіх дзён хацеў за-стацца уніятам.

Айцец Антон не змяніў свайго ста-новішча і ў 1838 г., калі епіскап Сямаш-ка ізноў наведаў Кляшчэлі і правёў там некалькі дзён на размовах з настаяце-лем. Становішча Сасноўскага, вельмі ж уплывовага духоўнага сярод пад-ляшскіх святароў, было вельмі нека-рыснае епіскапу Сямашку ў працэсе ўз'яднання. Таму, нягледзячы на пажы-лы ўзрост /64 гады/ а. Антона Сас-ноўскага прымусова перасяляюць у г. Кастраму. Тут а. Антон рашаецца прыняць Праваслаўе і пасля вяртання на Падляшша, 9 красавіка 1840 г. ізноў назначаецца настаяцелем Мікалаеў-скай царквы ў Кляшчэлях.

Яго актыўнасць не аслабла. Тут ён стварае фонд дапамогі бедным, уз-водзіць дом для духавенства /стаіць да сёння/. Прадаўжае свае гістарычныя, філалагічныя і этнаг-рафічныя зацікаўленні. Разглядае і апрацоўвае дакументы і старыя рукапісы /між іншым, Кіеўскі Псал-тыр 1397 г./ з бібліятэкі Супрасльска-га манастыра. Лёс уласнай бібліятэкі і рукапіснай спадчыны а. Антона Сас-ноўскага, на жаль, да канца невядомы. Пасля смерці святара ў 1852 г., паводле распараджэння мітрапаліта яе за-беспечыў драгічынскі благачынны а. Бараноўскі.

Разам са смерцю а. Антона Сас-ноўскага, які ў Кляшчэлях праслу-жыў звыш палавіны стагоддзя, у гісторыі тутэйшай Царквы завярша-ецца пэўная эпоха. Нягледзячы на свае адказныя пасады а. Антон заўсёды быў са сваімі прыхаджанамі. З 1839 г. змянілася юрысдыкцыйная падпарадкаванасць Царквы, а людзі аднак без асаблівых патрасенняў прынялі Праваслаўе. З імі аставаўся той жа святар, якому даражэй за ўсё быў духоўны дагляд вернікаў.

Пасля смерці а. Антона Сас-ноўскага, новым настаяцелем кляш-чэлеўскага прыхода назначаецца а. Ануфрый Гагалеўскі. На час ягона-га пастырства прыпадае, найбольшае з паловы XVII ст. міжканфесійнае су-тыкненне Праваслаўнай і Рымска-ка-таліцкай Цэркваў у Кляшчэлях. Мінула амаль 20 гадоў з часу ўз'яднан-ня уніятаў з Праваслаўем. Жылі яшчэ пакаленні выхаваныя ва уніі. Выкары-стоўваючы пры гэтым незадаволе-насць людзей з агульнай палітыкі ўлад, паасобных святароў і г.д., рым-ска-каталіцкая місія актыўна дзейнічала сярод праваслаўных.

У 1858 г. быў пасвячоны новы рым-ска-каталіцкі епіскап у Янаве /паўднё-вае Падляшша/. Як правіднаял ордэна капуцынаў, епіскап Веньямін Шыманскі, з дапамогаю сваіх манахаў разгортвае шырокую місійную акцыю. Капуцыны пераходзяць і за мяжу Польскага Каралеўства, у Бельскі павет, дзе заклікаюць людзей падавац-ца ў Янаў для прывітання мошчаў му-чаніка Віктара, якія перавозілі ў Янаў ажно з Кракава. На ўрачыстасці пры-сутнічалі тысячы людзей. Сярод іх ня-мала было праваслаўных. Як сведчаць "Гродзенскія Губернскія Ведамасці" ад 1864 г., у час згаданых урачыстасцяў фактычна прыняло каталіцтва 20 пра-васлаўных кляшчэлеўскіх мяшчан. Гэ-ты пераход павёў наступныя. Як сведчаць крыніцы, да канца 1859 г. у каталіцызм перайшло амаль 300 да-лейшых праваслаўных жыхароў гора-да.

Абвінавачанні ў дапушчэнні да тако-га становішча зваліліся галоўным чы-нам на настаяцеля. Айцу Ануфрыю Гагалеўскаму закідалася матэрыяльнае прыцясненне прыхаджан, самавольнае распараджэнне прыхадскімі грашыма і г.д. На жаль, гэтыя, як пазней вы-светлілася, несправядлівыя закіды зава-жылі на далейшай службе а. Ануфрыя. У верасні 1860 г. ён неадкладна пера-мяшчаецца ў царкву ў Дубічах-Цар-коўных. Адтуль, у Кляшчэлі пераводзіцца а. Феафіл Краскоўскі.

Адносна "адпаўшых" правас-лаўных мяшчан узводзіцца цар-коўны адміністрацыйны працэс. "Зачинщики" пераходу адпраўля-юцца ў манастыры для пакаяння, а ў самім прыходзе вядзецца напружа-ная місійная праца святароў з людзьмі. Да 1863 г. афіцыйна ўсе вярнуліся ў Праваслаўе. Апошніх 17 "упартых" асоб дало сваю "падпіску" 20 лістапада 1863 г.

Так завяршыўся гэты значны эпізод у гісторыі Кляшчэль. Напе-радзе былі неспакойныя 1863-1864 г.г. і перыяд "пазітывізму".

*/працяг будзе/*

**Р.С. і М.С.**

## УРАЧЫСТАСЦІ Ў ЗАСЦЯНКАХ

Дні 12 і 14 лютага 1993 г. гэта чарговыя асаблівыя даты ў гісторыі Беластоцка-Гданьскай епархіі. Першая дата вяжац-ца з дэкрэтам архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы аб стварэнні філіяльнага прыхода з Свя-та-Ільінскага прыхода ў Дайлідах. У новастворанным прыходзе апынуліся, між іншым, Засцянкі, Грабоўка, Саба-лева. У нядзелю, 14 лютага, архіепіскап Сава падчас Літургіі высвяціў часовую царкву ў пасёлку Засцянкі-калёнія, у месцы, дзе ў будучым узвысіцца мура-ваны храм і прыхадскі дом. Нябесным заступнікам царквы і прыхода (у буду-чым пэўна самастойнага) абраны Святы Вялікамучанік Панцеляймон. Быў ён лекарам на двары імператара Максіміяна і па яго загаду быў ён адда-дзены на мукі і адсячэнне галавы мячом (каля 304—305 г.).

Часовая драўляная царква, плошчаю ў 130 квадратных метраў, выглядае вельмі прыгожа. Знаходзіцца яна па ле-вы бок шашы ў Баброўнікі.

Варта ўспомніць, што першыя спробы пабудаваць царкву ў Засцянках узніміліся вернікамі і настаяцелем Свя-та-Ільінскага прыхода ў Дайлідах а. Аляксеем Несцяровічам у пачатку 1992 года. У красавіку мінулага года Яго Праасвяшчэнства архіепіскап Сава блаславіў намер будаваць новую царк-ву. З гэтага часу пачаліся інтэнсіўныя дзеянні ў гэтым кірунку. Спачатку купілі зямлю — 0,5 га пляцу. Улетку, 26 ліпеня 1992 г. адбылося ўрачыстае ўстанаўленне і пасвячэнне ў гэтым мес-цы васьміканцовага крыжа. Затым аб-гарадзілі пляц, упарадкавалі яго, звезлі будаўнічыя матэрыялы і сталі будаваць часовы храм. Усё было зроблена вельмі хутка, дзякуючы аграмаднаму заанга-жаванню вернікаў.

Урачыстасць пасвячэння царквы прыцягнула не толькі мясцовых, але і многіх вернікаў з навакольных бела-стоцкіх прыходаў. Архіепіскап Сава на заканчэнне гэтай неардынарнай падзеі сардэчна падзякаваў вернікам і духа-венству Свята-Ільінскага прыхода за ўклад у пабудову царквы. За асаблівыя заслугі Анатоль Белакоз і Афанасій Бурса атрымалі з рук архіепіскапа Бе-ластоцкага і Гданьскага пахвальныя граматы.

Трэба спадзявацца, што дзякуючы Бо-скай дапамозе і заступніцтву Прасвятой Багародзіцы і Св. Панцеляймона будо-ва будзе ісці ў хуткім тэмпе, а новая царква будзе доказам прывязанасці ка-рэнных жыхароў Беласточчыны — бе-ларусаў — да веры сваіх бацькоў.

**С.Н.**

# ВЯЛІКАПОСНЫЯ РОЗДУМЫ АЙЦА КАНСТАНЦІНА

У другую нядзелю Вялікага Посту, вернікам прапануецца для роздуму урывак з 2-га раздзела Евангелля паводле Марка. Гаворыцца ў ім пра аз-дараўленне Хрыстом у Капернауме спаралізаванага чалавека, якога пры-несло чатырох сяброў. Не маючы маг-чымасці прабіцца праз натоўп, яны апусцілі спаралізаванага праз разабра-ную страху. "Ісус бачачы веру іх - чы-таецца ў Евангеллі - кажа паралітыку: Даруюцца табе грахі твае". Чытаючы жа ў думках фарысеяў, якія ўспрынялі гэта як блюзнерства, Ён прамовіў: "Каб ведалі вы, што Сын Чалавечы мае ўладу на зямлі дараваць грахі - кажа паралітыку: Устань, вазьмі ложак свой ды ідзі ў дом твой" /Марк: 2, 1-12/

Прысутныя там успрынялі цуд па-рознаму; для адных ён стаўся прычы-наю асуджэння, а іншым наглядна даказаў, што грэх з'яўляецца прычы-наю хваробаў. Біблія вучыць, што якраз грэх - прычына ўсякага зла. Кож-нае выяўленне зла, гэта вынік ас-ноўнага грэху, якога сутнасць застаецца нязменнай ад самога пачат-ку, калі ён увайшоў у людскую гісторыю. Той жа самы грэх прымушае дзікара з кап'ём у руцэ мардаваць су-седнае племя, і гэтак жа пілота сучас-нага самалёта нішчыць вёскі з безабаронннымі жанчынамі і дзяцьмі. Ахінаючы сваёй абалонкай душу, грэх не дае пранікнуць у яе Божай ласцы і чалавек робіцца чэрствым, хмурным ды нязадольным да дабрадзейнасці. Грэх быў прычынаю першага забойства і першай магілы. Сёння назіраем тое ж, толькі ў памеры памнажаным мільёнамі людзей: турмы, шпіталі, магілы...

Нехта можа запярэчыць: а чаму хва-рэюць або пакутуюць малыя, нявінныя дзеці, чаму яны гінуць у вайне, у лаге-рах смерці, у сітуацыях, на якія яны не мелі ўплыву? Адказ вельмі просты. Нехта выклікаў вайну, нехта стварыў лагеры смерці, нехта вінаваты за Чар-нобыль, нехта адказны за недахоп ля-карстваў і харчоў, за атручаную ваду і паветра. Мы ўсе з'яўляемся сістэмай спалучаных сасудаў. Пакутуем калі не па сваёй віне, дык па віне кагосьці іншага. Гэта можа быць чыясьці нядбайнасць, блізарукасць, эгаізм, не га-ворачы пра мэтанакіраванае злачынства. Усе гэтыя прычыны, з усе-магчымымі адценнямі і нюансамі Біблія называе адным словам - грэх.

Прыблізна год таму, у сувязі з агуль-награмадскай дыскусіяй на тэму хва-робы СНІД, вядомай у англійскай мове як AIDS, епіскапат польскай ка-таліцкай царквы заявіў, што гэта плён разбэшчанасці, процінатуральных палавых зносін, інакш кажучы грэху. Епіскапат абвінаваціў у сярэдневяко-вай цемнаце, але гэта не змяняе факту, што СНІД найбольш пашыраецца ся-род гомасексуалістаў і наркаманаў. Непасрэдная ўзаемазалежнасць паміж грахом і хваробай, на першы погляд можа не быць прыкметная, аднак яна ёсць. Не трэба мікраскопа, каб прык-меціць колькі хваробаў і наогул зла выклікаюць п'янства, абжорства ці распуста. Пачынаючы з прастуды дзіцяці як выніку ягонай непаслухмя-насці і на забойстве канчаючы, прычы-на сваёй або чужой бяды тая самая і яе можна было б пазбегнуць, бо згодна прымаўцы: "Хто дрэнна жыве - таму і будзе дрэнна", а ў Святым Пісанні ска-зана: "Што чалавек пасее, тое і будзе збіраць".

Усе пакуты, боль, насілле, усе тра-гедыі і сорам чалавецтва заключаюцца ў адным старамодным слове - грэх. Мы можам аднесці яго да чалавечых сла-басцяў, можам яго назваць слабасцю ці памылкай, аднак Бог словамі Свято-га Пісання лічыць грэх трагедыяй. Мо-жам прайсці міма яго так, як спешна забываемся пра непрыемную заўвагу, але Бог лічыць яго агідным. Чалавек імкнецца паменшыць віну і апраўдаць сябе, але Бог паказвае яму сапраўдную небяспеку грэху і вучыць пазбягаць яго.

У Вялікі Пост чалавека, які звычай-на не знаходзіць ні ахвоты, ні часу за-думацца над сабою, Царква падахвочвае правесці самааналіз у су-пастаўленні з евангельскімі сюжэтамі. Насуперак чалавечаму мудрагельству і адвечным пошукам прычыны зла ўсюды - толькі не ў сабе самім, Царква паўтарае: "Даруюцца табе грахі твае; ідзі і больш не грашы".

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

## ВЯЛІКАПОСНЫЯ НЯДЗЕЛІ

**II НЯДЗЕЛЯ — 14 САКАВІКА — СВЯЦІЦЕЛЯ РЫГОРА ПАЛАМЫ.**

У гэтую нядзелю, якую называюць таксама „Нядзеляй асвячаючага пос-ту", упамінаем св. Рыгора Паламу (памёр каля 1360 г.), архіепіскапа Фе-салонікаў. Вучыў ён, што за цяжкасці посту і малітвы Бог можа ўнутрана ас-вяціць вернікаў той светласцю, якая некалі можа аб'явіцца ў відочны спо-саб, а якая аб'явілася Майсею на Гары Сінай або таксама падчас Праабражэн-ня Госпада на Гары Фавор. У сваёй навуцы супрацьставіўся ён фальшывай навуцы Варлаама і Акіндзіна, якую потым асудзіў Памесны Сабор у Кан-станцінопалі ў 1341 г.

Так як першая нядзеля называецца „Святам усіх праваслаўных", так дру-гая носіць асаблівае названне — „Свята манахаў". У Евангеллі на гэтую нядзе-лю — Марк II, 1-12 — успамінаецца аздараўленне Хрыстом паралітыка ў Капернауме.

*(Працяг будзе)*

# БЕЛАРУСЫ І ВЫБАРЫ

Апошнім часам сталі мы сведкамі мала цікавых і не да канца зразумелых гульняў палітычных элітаў Польшчы. Амаль усе бакі разнавідных канфліктаў недавольны існуючым парадкам і сённяшнімі, дэмакратычна выбранымі, уладамі. Адным не падабаецца прэзідэнт, другім урад, яшчэ іншым — парламент. Трэба, значыць, як найхутчэй правесці новыя выбары.

Будуць паскораныя выбары ці не? А калі будуць, дык якія — прэзідэнцкія ці парламентарныя? Якія яны аднак ні былі б, думаю, нам беларусам нічога яны ані не дадуць, ані не забяруць. Нічога затым дзіўнага, што не выклікаюць яны сярод нашага народа вялікіх страсцяў. Ва ўсходняй Беласточчыне адзін толькі чалавек можа быць пэўны выйгрышу, незалежна ад характару выбараў і палітычнай сілы, якую будзе прадстаўляць. Гэты чалавек — Уладзімеж Цімашэвіч.

Аднак, нягледзячы на ўсю абыякавасць да дэмакратычных формаў усталёўвання ўлады, ёсць адны выбары, якія і для нас павінны быць істотнымі. Не будуць яны ні паскораныя, ні адтэрмінаваныя, адбудуцца ў свой час — вясною бягучага года. Гэта выбары ў органы мясцовых тэрытарыяльных самакіраванняў або, інакш, самаўрадавыя.

Я думаю, што ніхто ўжо не сумняваецца, у якім кірунку ідуць у Польшчы палітычныя рэформы. Перш за ўсё, у бок структуральных пераўтварэнняў органаў улады. Каб як найдалей ад цэнтралізаванай мадэлі дзяржавы, дзе вырашаецца ўсе пытанні ў сталіцы, каб як найбольш кампетэнцый узялі на сябе меншыя грамадскія супольнасці, як хаця б гміны. Сёння паяўляецца магчымасць вырашаць свае справы, у вялікай ступені, самастойна. Не ўсім гэта так і вельмі падабаецца, але людзям з ініцыятывай, думаю, ёсць за што змагацца.

Тых, хто не верыў у ніякія змены і жыў паводле прынцыпу: неяк там будзе, павінны былі пераканаць апошнія тры гады. Некаторым навука абышлася дорага, асабліва тым, якія страцілі працу. Усім ужо сёння хіба стала ясна, што ніхто нікому нічога задарма не дае (нават кватэру ўжо не атрымліваецца, а купляецца). Калі чаго сам сабе не адваюеш, дык і месца таго не будзеш.

Самаўрадавыя выбары, гэта добрая нагода, каб узяць свой лёс у свае рукі. Ёсць яшчэ крыху часу, каб пра іх падумаць, але, з другога боку, гэтага часу не так і шмат. Год праляціць хутка, а мы, калі не пачнем рыхтавацца ўжо сёння, можам зноў апынуцца ў дурнях.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

---

Нялёгкім, але даволі плённым быў мінулы год для Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў - год станаўлення, пошукаў свайго абліčча. Нягледзячы на арганізацыйныя і фінансавыя цяжкасці, нам удалося зрабіць некалькі карысных спраў. Сярод іх - Міжнародная навуковая канферэнцыя ў Маладзечне "Фарміраванне і развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў", матэрыялы якой здадзены ў выдавецтва, Міжнародны круглы стол "Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім" /матэрыялы выдадзены/, беларуска-англійская сустрэча ў Лондане, беларуска-літоўская сустрэча ў Гервятах, сумесныя чытанні, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Зоські Верас, у Вільні. Некалькі плённых канферэнцый наладзілі польскія беларусісты. З дапамогай МАБ скіраваліся з Беларусі за граніцу стажоры - у Лондан /тут вялікую дапамогу аказвае віцэ-прэзідэнт асацыяцыі Д. Дынглі/, Рым, Оксфард. У Венецыі прайшлі першыя беларуска-італьянскія чытанні, матэрыялы якіх таксама рыхтуюцца /паралельна на дзвюх мовах/ да друку. Нямала беларусістычных публікацый на рахунку ў сяброў асацыяцыі М. Абола /Рыга/, М. Банькоўскі-Цуліг /Цурых/, Г. Бідэра /Зальцбург/, А. Каўкі /Масква/, М. Львовіч /Харкаў/, Я. Насовіча /Беласток/, Р. Радзіка /Люблін/, Г. Юмарта /Чабаксары/ і інш. Перавыдадзены рэпрынтным спосабам некаторыя рэдкасці /у тым ліку "Траялёначка" Ф. Багушэвіча, копію з адзінага экземпляра якой прыслаў з Кракава З. Нядзеля/. Здадзены ў выдавецтва перакладзеныя на беларускую мову кнігі сяброў МАБ В. Кіпеля /Нью-Йорк/, Ю. Туронка /Варшава/, А. Цехавецкага /Лондан/, першы выпуск "Беларусікі" /была карэктура/.

Не менш напружаным абяцае быць і 1993 год. Адна з галоўных яго сустрэч - Міжнародная канферэнцыя "Рым - IV" /Гродна, 28 чэрвеня - 2 ліпеня/, прысвечаная суадносінам нацыянальных і рэгіянальных культур Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны, іх пагранічча. У яе час адбудзецца і пасяджэнне камітэта МАБ. Беларуска-польская канферэнцыя /з польскага боку яе рыхтуе фонд А. Фрыча- Маджэўскага/, прысвечаная супольнаму гістарычнаму мінуламу, ад-

## АСАЦЫЯЦЫЯ РАСПАЧАЛА НОВЫ ГОД

будзецца 20-23 красавіка ў Брэсце. Англійскія беларусісты ладзяць у канцы сакавіка прадстаўнічае абмеркаванне актуальных праблем беларускага адраджэння. Сябры МАБ прымуць актыўны ўдзел у XI Міжнародным кангрэсе славістаў /Браціслава/, канферэнцыях у Будапешце, Лілі, Любліне і іншых гарадах Еўропы.

Адна з важнейшых падзей 1993 года - Сусветны з'езд беларусаў, які мяркуецца правесці ў ліпені. Сумесна з Цэнтрам імя Ф. Скарыны і "Бацькаўшчынай" МАБ выступілі ініцыятарам стварэння ў будынку былога Інбелкульта Усебеларускага дома, які, спадзяёмся, адкрыецца ў час з'езда. У ім будзе музейная зала "Беларусы ў свеце", экспазіцыі, прысвечаныя Ф. Скарыне, Інбелкульту, беларуска-іншанацыянальнаму культурнаму ўзаемадзеянню, Банк інфармацыі, сядзібы Цэнтра, "Бацькаўшчыны" /у выпадку яе згоды/, МАБ. З розных краін ужо пачынаюць паступаць для Усебеларускага дома кнігі, рукапісы, карціны, музейныя экспанаты. Зроблены першыя ахвяраванні /В. Кіпель, Ю. Станкевіч з ЗША, А. Алехнік з Аўстраліі, В. Целеш з Латвіі і інш./.

Па ініцыятыве Беларускага фонду культуры і МАБ у Нясвіжы адбудзецца міжнародная сустрэча Радзівілаў і іншых магнатаў-ураджэнцаў Беларусі. У яе час мяркуецца стварыць Міжнародны фонд "Нясвіж - кляйнот Беларусі".

Яшчэ адзін наш клопат - умацаванне выдавецкай, матэрыяльнай базы. МАБ выступіў адным з заснавальнікаў Навукова-вытворчага цэнтра "Аднова", якой адна з нямецкіх фірм бясплатна выдзеліла афсетную друкарскую машыну.

Камітэт МАБ імкнецца забяспечыць сяброў МАБ новымі беларускімі выданнямі - пакуль што /з увагі на сціпласць сродкаў/ самымі неабходнымі. У адказ мы атрымоўваем зарубежныя публікацыі, бібліяграфічную інфармацыю, якая выкарыстоўваецца беларускімі навукоўцамі.

**АДАМ МАЛЬДЗІС,**
**прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў**

---

# НАПІСАЎ ТОЕ, ШТО ПАЧУЎ

У сваёй дваццаціпяцігадовай карэспандэнцкай дзейнасці /маю тут на ўвазе не адну толькі "Ніву"/ я яшчэ не меў такой адмоўнай ацэнкі майго матэрыялу, якую даў у "Ніве" н-р 7 ад 14.II.1993 г. прапаведнік збору баптыстаў у Белавежы, Мечыслаў Пятроўскі.

Справа датычыць майго артыкула "У белавежскіх баптыстаў", які быў надрукаваны ў сёлетнім чацвёртым нумары "Нівы". Да яго напісання схіліў мяне факт будовы ў Белавежы дома для прапаведніка. Звярнуўся я тады за канкрэтнай інфармацыяй да першакрыніцы, значыць да М. Пятроўскага. Ён ахвотна згадзіўся. З нашай размовы - як заўсёды ў такіх выпадках - я рабіў непасрэдна нататкі, што бачыў мой размоўца. Праз некалькі дзён, абапіраючыся на гэтыя нататкі, я напісаў артыкул. Захацелася мне даць яшчэ і кароткую гістарычную звестку пра баптыстаў у Белавежы - адкуль яны ўзяліся, якія былі іх пачаткі. І ў гэтым выпадку я таксама выкарыстаў інфармацыю М. Пятроўскага, якую пачуў і запісаў у прысутнасці вялікай групы экскурсаводаў некалькі гадоў назад, на нашай экскурсаводчай перападрыхтовачнай сустрэчы ў малітоўным доме.

Цяпер я задумоўваюся, чаго ад мяне патрабуе прапаведнік белавежскіх баптыстаў? Адмовіцца ад яго слоў? Калі так, то прашу чытачоў палічыць мой артыкул "У белавежскіх баптыстаў" як неіснуючы - ва ўзнікшай сітуацыі я не магу ўзяць адказнасці за якую-колечы інфармацыю ў артыкуле. Калі мне выпадае некага перапрасіць, то перш за ўсё чытачоў за майго, неадказнага за свае словы, інфарматара. Лічу таксама, што ўсё такі я не даў падставы прапаведніку выказваць гэткія рэзкія абвінавачанні ў мой адрас. Тым больш, што артыкул быў напісаны ў прыязным для белавежскага збору і самога М. Пятроўскага тоне.

Хачу яшчэ дабавіць і тое, што пасля выхаду таго ж няшчаснага артыкула, звярнуўся да мяне асабіста М. Пятроўскі з падкрэсленымі ў тэксце сказамі, у якіх ён дагледзеўся пераблытанняў ці недакладнасцей. Былі і прэтэнзіі за тое, што я не ўспомніў усіх людзей, якія заслужыліся для белавежскага збору. Асабліва ішло пра прапаведніка Рамана Дроня, якога замяніў М. Пятроўскі. Наконт гэтай апошняй справы, я сказаў М. Пятроўскаму, што не пісаў я ні гістарычнага, ні манаграфічнага артыкула і ў сувязі з гэтым я не меў абавязку даваць поўную інфармацыю. Зрэшты, ён жа сам не палічыў важным назваць сваіх папярэднікаў у згаданым дакладзе аб белавежскім зборы. Чаго ж тады патрабуе ад мяне? Нарэшце мы вырашылі, што М. Пятроўскі пашле ў "Ніву" ліст, у якім выправіць усе памылкі і недакладнасці, а таксама дабавіць усё тое, чаго - на яго думку - не хапала ў маім артыкуле.

Аказалася, што М. Пятроўскі адступіў ад нашага дагавору /які ўсё ж ён пераменлівы!../ і палічыў больш карысным "з'ехаць" мяне на старонках "Нівы". Няхай будзе і так! Толькі што чытач ізноў не даведаўся праўды аб белавежскіх баптыстах і будове дома для прапаведніка. Усё ж, заахвочваю М. Пятроўскага прадставіць сваю версію гэтай тэмы, калі ўжо яна паявілася на старонках "Нівы". Я да яе больш дакранацца не буду /мне проста адхацелася/, а каб раней ведаў, чым гэта пагражае, зусім ніколі за яе не браўся б!

**ПЁТР БАЙКО**

**P.S.** У сувязі з тым, што я адрокся свайго артыкула "У белавежскіх баптыстаў", прашу Рэдакцыю не налічваць мне за яго ганарару.

**П.Б.**

---

# ТАКАЯ ДАПАМОГА ЦЕШЫЦЬ

Пабываў я ў шматлікіх падставовых школах на Гайнаўшчыне і Бельшчыне. Кожная з іх, а наведаў я іх не менш 25, мае такія ці іншыя дасягненні ў розных галінах ведаў, у песні, у спорце, і самыя розныя праблемы. У кожнай ёсць нешта асаблівае, цікавае.

У Падставовай школе ў Нараўцы навучаецца 376 дзяцей са шматлікіх навакольных вёсак у гэтай вялікай акрузе — ад Скупава па Масева і ад Плянты па Гушчэвіну. 129 вучняў штодзень давозяць на школьным аўтобусе, між іншым са Скупава, Масева, Альхоўкі, Плянты і Міклашэва. 370 дзяцей харчуецца ў школьнай сталовай.

У школьнай бібліятэцы, якую вядзе Вольга Семяняка, ажно каля 11 тысяч тамоў! Ёсць тут каля 500 беларускіх кніжак. Бібліятэка і чытальня ўтульныя і задбаныя. Ёсць этнаграфічны куточак. У чытальні прыемна сесці за густоўна дабраныя прыгожыя столікі і крэслы. Адным словам — прыемна і цікава тут, ахвота зайсці.

— У школе штогод арганізоўваем, між іншым, забаўляльнае мерапрыемства — Андрэйкі (у мінулым годзе адбылося яно 27 лістапада і ў яго ўдзельнікі асталіся самыя добрыя ўражанні) і навагоднюю ёлку. Дзеці раз танцавалі на дыскатэцы, а другі раз — ля ёлкі — пад гукі аркестра з Гайнаўкі. У бягучым навучальным годзе вучні ездзілі на экскурсіі ў Люблін і ў Варшаву. Калі настануць цёплыя вясеннія дні, арганізуем бівак на ўскраіне Белавежскай пушчы, пад арыгінальным, крытым гонтай дашкам, пабудаваным пад векавымі дубамі і над чыстай пушчанскай ракой — у маляўнічай аколіцы каля вёсачкі Грушкі, — гаворыць дырэктар Яўген Валкавыцкі.

А зараз некалькі слоў пра дапамогу войта Мікалая Павільча. Калі спатрэбілася бляха, яе атрымалі. Яшчэ восенню накрылі ёю галоўны будынак школы. Войт знайшоў фінансавыя сродкі на пакупку ксеракса і вугалю. Нядаўна пачаў аплачваць урокі нямецкай мовы, якія вядзе вопытная германістка ў школах у Нараўцы і ў Старым Ляўкове.

Бацькоўскі камітэт таксама дапамагае школе. Ён адвёў 10 мільёнаў злотых на пакупку партаў, фінансуе пакупку мыла, ручнікоў і парашку для мыцця. У мінулым навучальным годзе плаціў за канцэрты ў школе, якія наладжвала філармонія.

Падставовая школа ў Нараўцы знаходзіцца ў пяці будынках. Вядома, у такіх умовах настаўнікам нялёгка працаваць, а дзецям вучыцца. Плануецца пабудова шасцікласнага аб'екта. Ёсць месца для гэтай пабудовы — трохгектарны пляц. Неўзабаве будзе гатовы праект пабудовы школы і спартыўнай залы. Крыху іншы ад усіх шаблонных, тыповых. Як прадбачваецца, будынак не будзе мець манатоннага казарменнага характару. Праектант увядзе архітэктурныя навінкі. Школа будзе падключана да ачышчальні сцёкаў. Астаецца пажадаць паспяховай рэалізацыі асветнага аб'екта.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

# ЖЫВЕ ПЕСНЯ!




*Гарадоцкі хор — найстарэйшы калектыў, заўсёды малады.*

Два дні ў Беластоцкай філармоніі гучала беларуская песня. У суботу, 20 лютага, у фінальным аглядзе ўязло ўдзел 63 „музычныя адзінкі“ прагучалі 124 песні. Пачаў агляд вялікі (ужо больш за 40 асоб) хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Як кажа вечна маладая, хаця ўжо срэбнавалосая Люба Гаўрылюк: „Ведаеце, як то ёсць у нашым жыцці: калі цяжка, чалавек спявае, і забываецца. І хвароба адыдзе. Бяду ў кутку кідаеш у хаце, сам пайшоў на рэпетыцыю, на сцэну, развеешся. Нашы людзі ўмеюць спяваць, калі цяжка. З песняй лягчэй. Такі мы народ.“

— Гэта быў ужо 24 агляд беларускай песні. Багаты, як ніколі. Раённыя агляды адбыліся ў Сямяцічах, Беластоку, Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім. Па колькасці выканаўцаў і іх узроўню былі надзвычай добрыя, — кажа Валянціна Ласкевіч. — У Беластоку адбываюцца вялікія падзеі, калі гаварыць пра развіццё беларускіх аматарскіх калектываў, дзякуючы якраз маладым людзям, асабліва **Алі Дубец**, якая прыцягнула да працы моладзь. Аля працуе з маладым калектывам, аддзельна з паасобнымі выканаўцамі, салістамі, дуэтамі.

Гонар прывітаць удзельнікаў, спонсараў, публіку і міжнароднае журы меў Янка Сычэўскі (А. Баршчэўскі на гэты раз не мог сказаць свайго слова — прымаў ганаровае званне доктара honoris causa Мінскага універсітэта).

— Думаю, што пакуль будзе на Беласточчыне біць сэрца беларуса, пакуль будуць спрыяльныя людзі, якія беларускай культуры ўвесь час дапамагаюць (тут трэба ўспомніць асабліва пра Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, спонсараў), пакуль будуць вельмі спрыяльныя ўмовы, якія ствараюць нам улады Рэспублікі Беларусь у развіцці нашай культуры на Беласточчыне і ў Польшчы, — сказаў Я. Сычэўскі, — беларуская культура на Беласточчыне і ў Польшчы не загіне. Беларуская песня будзе квітнець, — закончыў аптымістычна прамоўца.

Арганізатарамі агляду былі ГП БГКТ, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку, Бельскі і Гайнаўскі дамы культуры. Спонсарамі — Міністэрства культуры і мастацтва РП, Ваяводская ўправа - Аддзел культуры, спорту і турыстыкі ў Беластоку, суполкі „Пронар“ з Нарвы і Авалё-Косьля з Беластока. Фундатарамі ўзнагарод былі між іншым пасльі Уладзімеж Цімашэвіч і Аляксандр Малахоўскі, выдавецтва „Хроніка“ і „Газета тыгоднёва“, суполка „Амега“ з Бельска-Падляшскага, з Беларусі — міністэрствы замежных спраў, культуры, інфармацыі, Таварыства „Радзіма“, Фонд беларускай культуры (аддзел у Гродне), Аддзел культуры Гродзенскага абвыканкама. Міжнароднаму журы (старшыня — прафесар Міхась Дрынеўскі, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча) цяжка было сярод роўных выбраць найлепшых выканаўцаў. Мелі мы чым пахваліцца, што паказаць. Захапілі салісткі-выканаўчыні аўтэнтычна фальклорных песень — **Валянціна Клімовіч** з Дабрывады, поўная тэмпераменту і гумару, і **Ірэна Лукша** (Аўрора, цяпер з Мора), з крынічна-чыстым голасам пушчанскай дзяўчыны (III месцы), дуэт **Ганна Раманюк** і **Вольга Кандратовіч** з Дубяжына (слухаючы іх песні „Дождж накрапае“ і „А там у лузі пры дарозі“, мелася ўражанне, быццам трапілі мы ў іншы час, подых мінулага хваляваў душу) і квартэт з **Мельніка**. Сярод вакальных калектываў II месца атрымала **Дабрывада** (засталася ў маёй памяці сумная песня пра дзяўчыну, якая „адбілася ад роду і ідзе да матулі) і **Арэшкі** з Арэшкава.

III месца ў гэтай катэгорыі — **„Каліна“** з Дашоў. Сярод аўтэнтычных абрадавых калектываў узнагароджаны **„Тыневічанкі“** (абрад „перэпеліцы“) і **„Красуні“** з Краснага Сяла (хрэсьбіны).

У катэгорыі апрацаванага фальклору III месца і ўзнагароду атрымала **Галіна Карбоўская** з Беластока, I - дуэт **Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк**, II - дуэт **Багуслава Карчэўская** і **Аліна Ваўранюк** з Бельска-Падляшскага, III — дуэт **Яўгенія Барысюк** і **Кастусь Селевановіч** з Бельска. Сярод вакальных груп — I месца для жаночай часткі **„Маланкі“**; II — **Маладзёжнай мешанай групе беластоцкага хору БГКТ**, III **мешанай групе беластоцкага хору БГКТ** і III — для **Гарадоцкага хору**. Спецыяльнае вылучэнне — для **Аліны Ваўранюк** — „за агульны мастацкі выраз“. З вялікіх хораў на III месцы знайшліся **„Васілёчкі“** з Бельска-Падляшскага. Спецыяльныя ўзнагароды атрымалі **Сяргей Лукашук, Аля Дубец** і **Віктар Маланчык**.

У катэгорыі сучаснай песні на I месцы апынулася **Аля Дубец**, на II — **Юрка Налівайка** (яму „цыганка наваражыла, што будзе спяваць!“) і **на III — маладзенькая Ася Лукашук** з Бельска і **Юрка Астапчук з Гарадка**. Спецыяльная ўзнагарода — для небывалай **Элі Сушко** з Варшавы. **Эля Сушко** разам з сятрой **Оляй** захапілі I месца. На II — **квартэт з Беластока**, III — квартэт **„Зорка Венера“** з Варшавы, дуэт **Павел Лаўрэшук** і **Міхал Лашэвіч**, тэрцэт **ІКОС**, дуэт **Анна Богус** і **Мар'я Вярбіцкая** (дзве „міс-фота“ агляду).



*"Зорка Венера" з Варшавы.*

Сярод калектываў вакальных і вакальна-інструментальных у катэгорыі сучаснай песні першымі былі **мужчынская група Гайнаўскага дома культуры**, на II месцы — **жаночая група калектыву гарадскога аддзела БГКТ**, на III **жаночая група ГДК**. А з хораў — на I месцы — **хор беластоцкага аддзела БГКТ**, на II — **хор Гайнаўскага дома культуры**.

„Гітам“ агляду была песня „Палюбіла я яго“ (4 разы ў вельмі добрых выкананнях і цікавай аранжыроўцы). Але былі і песні новыя, аўтарскія, як, напрыклад, **Язэпа Карпюка** з Сямяціч. І маладосць, маладосць! Нават на заканчэнне — новая песня маладых — „Беларусь“ Зміцера Яўтуховіча і Алеся Бадака. Моладзь свежая, энергічная, надзейная. Жыве песня!

**МІРА ЛУКША**




## АРСЕННЕВА І БЭНДЭ ПАД АДНОЙ ВОКЛАДКАЙ

У Менску выйшаў друкам першы том бібліяграфічнага слоўніка „Беларускія пісьменнікі“*. Упамянутыя ў ім аўтары, якіх прозвішчы пачынаюцца на літары: А, Б і В, ад Альгерда Абуховіча — графа Бандынэлі, да Ніны Ватацы. Выдаўцом з'яўляецца Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі.

Даведка пра кожнага пісьменніка падзеленая на біяграфічны і бібліяграфічны раздзелы. У біяграфічнай частцы, як правіла, бяруцца пад увагу даты і месцы нараджэння і смерці, сацыяльнае паходжанне, адукацыя, пазалітаратурная дзейнасць, удзел у грамадскім жыцці, пачатак літаратурнай дзейнасці і яе важнейшыя этапы. У бібліяграфічнай частцы знаходзім звесткі пра зборы твораў аўтара, пра кніжныя выданні, пра паасобныя творы, друкаваныя ў перыёдыцы і аказіянальных выданнях ды рэцэнзіі на іх. Указваюцца пераклады, зробленыя пісьменнікам з розных моў і пераклады твораў пісьменніка на іншыя мовы, а таксама кнігі ды рознага тыпу публікацыі, дзе пісьменнік выступае як рэдактар, складальнік, ці выконвае іншую падобную функцыю. Ёсць таксама інфармацыя пра прыгожую літаратуру, прысвечаную дадзенаму аўтару альбо ўзнікшую пад ягоным уплывам.

Кожная даведка ўпарадкаваная паводле храналагічнага прынцыпу. І тут ужо заўважаецца першы недахоп кнігі - складальнікі не пішуць, да якога года можна знайсці ў ёй інфармацыю пра пісьменніка. Гартаючы кнігу заўважаем, што ў выпадку розных аўтараў, розная завяршальная дата, да якое даведзеная бібліяграфія іхніх твораў. Найчасцей спыняецца яна ў палавіне васьмідзесятых гадоў.

У бібліяграфічным слоўніку знайшлі сваё месца і забароненыя ў БССР эміграцыйныя пісьменнікі Наталля Арсеннева і Антон Адамовіч ды забыты ў вайну драматург Францішак Аляхновіч. Калі параўнаць гэта з мінулым часам, дык можна тут казаць пра вялікі прагрэс. На жаль, з іх твораў упамінаюцца толькі тыя, што былі надрукаваныя ў Беларусі. Гэта даволі дзіўнае, паколькі сярод супрацоўнікаў рэдакцыйнай калегіі ёсць і замежныя даследчыкі, дык хаця б прафесар Томас Бэрд са Злучаных Штатаў Амерыкі. Надалей больш месца прысвячаецца славутаму пагромшчыку наццэмаўшчыны 30-х гадоў, крытыку Лукашу Бэндэ, чымсьці паэтэсе Наталлі Арсенневай.

Таксама ў насвятленні жыццёвага шляху паасобных аўтараў хацелася б, каб дух нябожчыцы Бээсэсэры быў менш відавочны.

На канец варта адзначыць, што ў слоўніку аднатаваны два аўтары-„белавежцы“, Надзея Артымовіч і Аляксандр Баршчэўскі.

**М.В.**

---

* *„Беларускія пісьменнікі, Бібліяграфічны слоўнік“ Т. I, Мінск, 1992*

## НОВЫЯ КНІГІ ТАБЕ ДАРУ

Паведамляем шаноўных чытачоў „Нівы“, што выйшаў з друку новы вельмі цікавы літаратурны альманах **„МАЕ ПЕСНІ ТАБЕ ДАРУ“**. У ім Вы можаце пазнаёміцца з творчасцю новага пакалення беларускіх паэтаў, а таксама прачытаць другі раздзел з рамана „Уліс“ Дж. Джойса, упершыню перакладзены на беларускую мову.

Альманах гэты поўнасцю сфінансавалі беларусы з Кліўленда (ЗША) і спадар Міраслаў Целушэцкі, які ўзначальвае бельскую фірму „Амега“.

Управа Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ ад свайго імя ды ўсяго пісьменніцкага гурту выказвае фундатарам глыбокае сардэчнае **ДЗЯКУЙ**.

**(яч)**




## „КРУГ ПАРАНОІ, АЛЕ ДЗЕ?"

„А ці такая (значыць беларуская літаратурная — М.К.) мова **АЖ** (вылучэнне — М.К.) так вельмі нам патрэбная?" — пытае Мікалай Панфілюк у „Ніве" ад 31 студзеня 1993 года. Не выясняе М.П., хто за ім стаіць, калі піша „нам непатрэбна". Ад імя каго піша М. Панфілюк сваю балбатню ў „Ніву"? Што дурната вылазіць з усякага яго „артыкула", відаць гэта кожнаму, і думаю, што рэдакцыя змяшчае „творчасць" М.П. з Дубіч, каб паказаць, што блытае па галовах некаторых беларусаў, якія, па-іхняму, з'елі ўсе розумы. Каб гэта даказаць, трэба проста разабраць ягоныя сказы на часткі, хоць гэта работа не вельмі цяжкая, але марудная, бо трэба даказваць, што для жыцця патрэбнае паветра, сонца, вада і гэтаму падобнае, хаця ўсім гэта вядома.

Махнуў бы я рукой на выказванні М.П. — для мяне ўсё ясна, але камусьці, хто пачынае чытаць „Ніву", у большасці маладым людзям, дэмагогія карэспандэнта з Дубіч можа пабытаць не толькі думкі, але і змуціць рэчаіснасць. Так больш-менш ад некалькіх гадоў М. Панфілюк лічыць сябе пакрыўджаным у тым, што быццам бы ён ваяваў з камуністамі і камунізмам, і з той прычыны праследавала яго дубіцкая ўлада: „Я СССР не крытыкаваў, але крытыкаваў нашу камуністычную бюракратыю тут, на месцы. За гэта мяне, вядома, як „любілі" ў гміне, у партыі: так „любілі", што многа разоў клікалі на „споведзь" у камітэт партыі ў Дубічах-Царкоўных, а нават аднойчы мой дом наведаў нейкі маёр з беластоцкай бяспекі". Да М. Панфілюка, да важнай персоны ў дубіцкай апазіцыі, беластоцкая бяспека высылала маёра, бо сяржант не мог справіцца. Адным словам, зараз М. Панфілюк дарабляе сабе катаржнае мінулае пры сацыялізме і хоча прыкідвацца (перад кім?) мучанікам старой сістэмы. Добра было б, толькі не ведаю, ці ў выпадку карэспандэнта з Дубіч гэта прынясло б якінебудзь эфект, каб адгрэбці ў архіве не надрукаваныя лісты, і паказаць, з якой прычыны не пайшлі яны ў друк.

М. Панфілюк мяшае з балотам людзей, якія маюць акрэсленыя погляды, калі не дай Бог не супадаюць яны з Панфілюковымі. Што М. Панфілюк не ваюе з поглядамі А. Барскага, В. Петручука і іншымі, а толькі з імі самімі, можна зразумець, бо да ваявання з поглядамі патрэбны аргументы і якія-небудзь веды аб рэчаіснасці. А чытаўшы „артыкулы" М. Панфілюка можна вырабіць погляд, каго прадстаўляе сабой аўтар. Як можна пісаць раз што „На Беларусі камунізм закараніўся таму, што людзі не шануюць сваёй гаспадарчай спадчыны, сваёй **роднай мовы** (падкр. М.К.)...", а другі раз, праз тыдзень бадай, што „... ці такая чыстая мова аж так вельмі нам патрэбная?" Разумею, што наш прэзідэнту адным сказе выказвае супярэчлівыя фразы тыпу: „Jestem za, a nawet przeciw", але Панфілюк — не Валэнса.

Сваім розумам М. Панфілюк не можа абняць таго, што робіцца навокал. Гляньма, якую простую інтэрпрэтацыю дае М.П. заняпаду ўсяго на Беларусі (хоць не ведаю, ці ён тую Беларусь бачыў). Піша так: „На Беларусі камунізм закараніўся таму, што людзі не ...". Калі сягнеш да літаратуры, да гісторыі, да розных публікацый пра пачаткі дваццатых гадоў, то выходзіць наадварот, што калі запанаваў камунізм, можа бальшавізм, які ўсю беларускую інтэлігенцыю паслаў у зямлю і на Сібір, то ён укараніўся, і не беларусы, як народ, тут вінаваты. Як можна пісаць такія глупствы, калі маем нейкую арыентацыю ў рэчаіснасці, не гаворачы пра элементарную адукацыю. Дзе быў М. Панфілюк, калі мы ўсе хадзілі ў школы? Няхай сабе і сацыялістычныя, але аднак чаго-небудзь можна было навучыцца. Няўжо М.П. пагневаўся на такое навучанне і закончыў на „двухкласным вучылішчы"?

Можна пісаць у „Ніву", і калі ў гэтым пісанні няма думкі, то няхай хоць будзе інфармацыя. Але не! М.П. хоча быць філосафам, дзеячом беларускай справы, хоць калі чытаю „Круг параноі, але дзе?", то сумняваюся і ў апошнім сцвярджэнні. Хоча быць суддзёю, пракурорам і выканаўцам сваіх прыгавораў.

Нічога не рабіўшы, не пабрудзіш ні рук, ні сумлення. Цяпер крычыць М.П., што БГКТ гэта была (ёсць) камуністычная арганізацыя, з камуністычным праўленнем. Я думаю, што БГКТ за ўсе гады як і цяпер, гуртавала многа шчырых і адданых справе беларусаў, і перш за ўсё сумленных. Часы змяніліся, цяпер можна выліваць на іх вёдры гною, але гэта не абазначае, што М. Панфілюк можа гэта рабіць публічна і пры дапамозе „Нівы". Не ўсё, што ўнясла БГКТ у беларускае жыццё на Беласточчыне было добрае, але многа, вельмі многа зрабіла добрага! Думаю, што з часам гісторыя аб'ектыўна разбярэцца ў тым, чаму напрыклад І. Кірызюк адышоў ад беларусаў.

А так пры нагодзе хачу сказаць новаму (?) аўтару, нейкаму А. Вярбіцкаму, які ў агромністым артыкуле, як я зразумеў, дамагаецца ад БГКТ вярнуць камп'ютэры ў рэдакцыю „Нівы" (слушна!; на якіх варунках гэта іншая справа, можна ж дагаварыцца пры добрай волі з боку ўладаў БГКТ), а пры нагодзе закідае К. Майсеню брыдкую думку, што „... можа спадар Майсеня дайшоў да вываду, што зрабіў ён занадта многа і цяпер, як тая Хвядора — то шые, то пора". Няхай лепей А. Вярбіцкі не пора спадара Майсеню, бо хто гэта К. Майсеня вядома, а хто гэта А. Вярбіцкі, што пароць пробуе, невядома. Але можа фактычна трэба было б заняцца апісаннем спачатку фактаў, звязаных з мінулым БГКТ і яго дзеячоў, а потым праз сон нешта мармытаць, як А. Вярбіцкі ў артыкуле „Стог саломы беларускіх капіталістаў"?

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**

Маеце рацыю, К. Майсеня нічога не пора. „Пора" хто іншы. А другія бачаць гэта і не супрацьдзейнічаюць. А тое, што яны не памагаюць „пароць" не абазначае, што хтось іншы не распора. Прывёў я ў згаданым артыкуле два прозвішчы найбольш аўтарытэтных людзей у беларускім асяроддзі, якія маглі б эфектыўна супрацьставіцца марнатраўству. Яны, здаецца, маўчаць. Маўчанне — знак згоды. І дазволу. Яшчэ год таму назад я, так як і Вы, верыў у „добрую волю ўлад БГКТ". Калі аднак знайшоўся блізка спорных камп'ютэраў і захацеў да гэтай „добрай волі" дакрануцца, аказалася, што яе там няма.

**А. ВЯРБІЦКІ**

## З'ЕЗД АЎСТРАЛІЙСКІХ БЕЛАРУСАЎ

У днях 19-21 студзеня 1993 г. адбыўся ў Мельбурне 10 З'езд Выканаўчага камітэта Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі. У раду ўваходзіць 9 палітычных і рэлігійных арганізацый, якія свой з'езд арганізуюць кожныя два гады.

Першы дзень з'езда прайшоў у Беларускім грамадскім доме ў Мельбурне і меў афіцыяльны характар, між іншым, былі зачытаны справаздачы, выбраны ўлады і сфармуляваны праект рэзалюцыі. На другі дзень быў наладжаны пікнік у адным з паркаў, падчас якога дэлегаты з'езда і беларускае грамадства Мельбурна слухалі родныя песні з магнітафоннай стужкі і ў выкананні прысутных. Быў таксама разгледжаны і канчаткова прыняты тэкст рэзалюцыі. На трэці дзень удзельнікі развіталіся і раз'ехаліся ў розныя мясцовасці аўстралійскага кантынента — сваёй другой Радзімы. Найбольш беларусаў згуртавана ў гарадах Сідней, Мельбурн, Перт і Адэлаіда. Яны актыўна дапамагаюць ахвярам Чарнобыля на Беларусі. Вось, напрыклад, дзявочы гурток „Каліна", які дзейнічае пры Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве ў Мельбурне, правёў вечарыну, на якой сабрана 2000 долараў на патрэбы пацярпеўшых на бацькаўшчыне. Разам аўстралійскія беларусы сабралі 37000 долараў на дапамогу ахвярам чарнобыльскай катастрофы, якія старшыня ВК ФРБА сп. Груша асабіста завёз у Гомельскую абласную бальніцу.

Рэзалюцыя, прынятая З'ездам, заклікае, між іншым, да:

— увядзення беларускай мовы ў школах, дзяржаўна-адміністрацыйных установах, войску і храмах усіх веравызнанняў,

— увядзення прыватнай уласнасці — у тым ліку і на зямлю,

— увядзення сваёй валюты і банкавай сістэмы,

— адраджэння беларускай культурнай спадчыны,

— абароны агульналюдскіх правоў на асабістую свабоду,

— замена савецкіх назваў беларускімі — у тым ліку „Вярхоўны Савет" на „Беларуская Дзяржаўная Рада".

Рэзалюцыя канчаецца сцвярджэннем, што галоўнай мэтай беларускай эміграцыі ў вольным свеце з'яўляецца свабода, незалежнасць Беларусі і дабрабыт усіх яе грамадзян.

**Апрацаваў (Ш)**




**ЧАСТКА XXXII**

Значную сацыялагічную і грамадскую цікавасць уяўляе сабой выказванне беларускай, прыблізна трыццаціпяцігадовай, культурнай дзяячкі з-пад Барысава, з якой давялося мне сустрэцца на адным сядзенні ў аўтобусе, якім я ехаў з Гародні ў Мінск. Сваім старым звычаем распачаў я гутарку аб капіталістычных зменах у жыцці беларусаў. Жанчына пачаткова, як бы нясмела, а пасля з усё большым заангажаваннем пачала гаварыць аб тым новым, што выступае ў жыцці сённяшніх жыхароў Рэспублікі Беларусь. Вось яе прызнанні, рэмінісцэнцыі і вывады:

„Маё пакаленне пражыло ўсё жыццё без капіталізму. Калі гаварыць шчыра, дык нямнога мы ведалі аб жыцці людзей на Захадзе. Заходнія радыёперадачы заглушваліся, літаратура і прэса адтуль да нас не даходзілі, час ад часу паяўляліся ў кіно добра працэнзураваныя, падабраныя заходнія фільмы. Вось гэтыя фільмы і былі для нас амаль што адзінымі крыніцамі ведаў пра Захад. Ну, што там гаварыць, паказаныя ў іх кватэры, магазіны, аўтамашыны, увесь гэты бляск і шык рабілі ўражанне і ў кожным з нас радзіліся імкненні, калі ў такіх умовах не пажыць, то хаця б усё гэта пабачыць. Але вядома, што такіх магчымасцей не было. Што там гаварыць пра Захад! Нават паездка ў Польшчу была вялікай праблемай і падзеяй. Тыя, каму пашчасцілася паехаць, мусілі прайсці праз дзесяткі розных камісій і атрымаць дзесяткі справак, дазволаў, каб у канцы паехаць на некалькі дзён. Ну, але самі ведаеце, што сталася.




Развалíўся Савецкі Саюз, узнікла незалежная Беларусь і адкрылася мяжа па сутнасці для ўсіх. Ну, і ведаеце, што ўсё, што жывое хлынула ў Польшчу. Ехалі ўсе, як гэта гаворыцца: і жук і жаба. Зразумела, што ехалі людзі не для таго, каб знаёміцца з культурай, музеямі ці тэатрамі, а толькі для таго, каб крыху патаргаваць і за зробленыя залатоўкі купіць долары, вярнуцца дамоў, ну і тут разжыцца, бо вядома, што ў нас гэтыя долары вельмі дарагія. Так яно сталася і з маёй сям'ёй. Пастанавілі мы з мужам пабагацець і стаць капіталістамі.

Ну і тут пачалося! Спачатку то мы выбралі ўсе грошы з ашчаднай кніжкі. Аказалася, што іх у нас малавата. Ну дык яшчэ запазычыліся не толькі ў маіх і мужавых бацькоў, але і ў чужых людзей. У канцы канцоў назбіралі каля дваццаці пяці тысяч. Пасля пачалі ганяцца па магазінах. Вядома, што тавараў у нас нармальным шляхам не купіш, бо іх на паліцах і прылаўках няма. Усе тавары прадаўцы хаваюць і прадаюць толькі тады, калі дасі ім у лапу. Ну дык прыйшлося даваць усюды хабар. У канцы канцоў накупілі мы розных тавараў, можа так каля шасцідзесяці кілаграмаў усяго разам. Ну яшчэ былі праблемы з запрашэннем. Як амаль усе купіла я яго на базары за тысячу рублёў, вядома фальшывае, але добра падробленае. Мы ўсё палічылі і дайшлі да вываду, што павінна я ўсё прадаўшы зарабіць так недзе пад дзвесце долараў. Вось з такімі надзеямі я і паехала ў Польшчу. Два дні валялася на вакзале ў Гародні, таможнікі вельмі павольна прапускалі. Самі ўяўляеце, колькі нерваў з'ела такое чаканне. Урэшце прапусцілі і нічога з тавару не затрымалі. Але зноў нервы, бо невядома, ці палякі не разбяруцца ў тым, што запрашэнне фальшывае. Але не разабраліся і неяк праз польскую мяжу праскочыла. Нібы птушка неслася ў Беласток, у думках ужо лічачы грошы. Калі толькі прыехалі, пачаў ісці дождж. Ішоў цэлы дзень і таму мусілі сядзець на вакзале, не было як ісці на базар. К ночы праяснілася і думалася, што назаўтра паедзем на базар. Так яно і сталася, паехалі. Аднак як толькі заехалі на базар, разлажыліся, зноў пачаў ісці вялікі дождж. Думалі, што пяройдзе, але не праходзіў, дык нічога не прадаўшы зноў вярнуліся на вакзал. Прасядзела ўвесь дзень і ноччу не вытрымала і заснула. Калі прачнулася, то аказалася, што дзве з маіх сумак украдзены. Нарабіла я крыку. У канцы канцоў прыехала ваша паліцыя. Ну і што? Ды нічога. Сказалі, трэба было не спаць і свае рэчы пільнаваць. Вось і ўсё. Трэцяга дня перастаў ісці дождж, я з трэцяю торбаю паехала на вакзал. Што прадала, што не прадала. Прадала ў канцы канцоў на трыста тысяч. А тады ў вас долары каштавалі па 11 тысяч. Ну, дык не хапіла мне нават на тры сотні долараў. Вось і зарабіла я, як Заблоцкі на мыле. Не буду апавядаць, што ў нас у сям'і рабілася, калі я вярнулася з гэтымі дваццаццю пяццю доларамі.

Вось так я стала капіталісткай. Хто як хто, але я ўжо болей на гандаль у Польшчу не паеду! А да каго мець прэтэнзію, вядома, да сваёй дурной галавы".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка
## старонка для дзяцей

*ПАЛІНА ТКАЧОВА*

**САКРЭТ РАСКРЫЎСЯ**

Колькі тут гадзіннікаў! І ходзікі, і ручныя, і электронныя... Ад вялікіх да маленькіх, як арэшак. Вочы разбягаюцца.

Дзеці глядзелі, затаіўшы дыханне. Яшчэ б! Экскурсія на гадзіннікавы завод. Дзяўчынкі любаваліся прыгожымі цыферблатамі. А Ваню зацікавіў гадзіннік з адкрытым вечкам. Усё было як на далоні. І ўспомніў Ваня, як летась прывезлі ў іх дзіцячы сад насценны гадзіннік - ходзікі. Выхавальніца кожную раніцу падцягвала гіру.

- Навошта вы падцягваеце? - спытаў Ваня.

- Каб гадзіннік ішоў, - сказала выхавальніца. - Гіра цягне ўніз ланцужок, ён круціць шасцярэнькі - і стрэлкі рухаюцца.

Ваня днямі не адыходзіў ад гадзінніка. То знізу паглядзіць, то збоку, то рукою дакранецца. Вельмі хацелася ўсярэдзіну заглянуць! Што там!

Аднаго разу мама забрала Ваню з сада і пайшла ў магазін. Ваня застаўся дома адзін. І надумаўся: "Калі вялікі гадзіннік з гірай, то і ў маленькім павінна быць гірка. Як жа інача? Трэба паглядзець".

Ён дастаў з шуфляды бацькаў ручны гадзіннік, прыадкрыў вечка. І тут - о жах! - штосьці скрыпнула, трэснула і дробненькія дэталькі пакаціліся па падлозе. Доўга поўзаў Ваня, збіраў іх. І ўсё шукаў гірку. Кожную шчылінку правeрыў. І пад дыван заглядваў, і пад кніжную паліцу. Ды і так не знайшоў яе, гірку...

І толькі цяпер, на заводзе, сакрэт раскрыўся. Гледзячы зблізку на гадзіннік з паднятым вечкам, Ваня зразумеў: стрэлкі прыводзіла ў рух не гірка, а спружына.



*Спіць ялінка ў снежнай шапцы...* **Фота У. Завадскага**

# МАРЫЯ КАНАПНІЦКАЯ

"А зараз пішу гэтых некалькі слоў (...) у Грушовай, на Піншчыне, у п. Мар'і Радзевіч, аўтара "Дэвайціса". Краіна цікавая, упершыню знаёмлюся з ёю; моцна падабаецца мне. Пінск і Піншчыну трэба бачыць вясною, калі праглядваюць па шырокіх і далёкіх разлівах. Але і цяпер, восенню, цікавіць мяне гэтая мясцовасць. Мясцовасць і людзі. (...) Але пінчук заўсёды застаецца той самы, тыпова худы, чарнявы, брудны, бедны, прыкідваецца наіўным. Заўсёды на спіне носіць тую ж самую торбу з кавалкам чорнага хлеба і салёным агурком, заўсёды пляце пасталы і накрывае плечы самаробнай світкай з уласных бурых авечак". (З ліста да Тэафіля Ленартовіча, 1888 год.)

"Тое, што там народзіцца калісьці паміж народам, - не будзе гэта Польшча ні Літва - а Беларусь". (1888 год.)

У некралогу, прысвечаным памяці Марыі Канапніцкай, "Наша ніва" падкрэслівала: "Канапніцкая чутка прыслухівалася да ўсяго, што гаварыла ёй душа польскага народа, - апявала долю і нядолю мужыка-хлебароба (...) Ніякія жыццёвыя нягоды не здолелі зламаць ці прыглушыць яе вялікіх агульналюдскіх думак. Цвёрда верыла Канапніцкая ў перамогу праўды і справядлівасці, жывым словам песні будзіла людзей ад спячкі, выказвала сілу народа, катарая павінна ў канцы канцоў здабыць лепшую долю для ўсіх пакрыўджаных жыццём. Але сучаснае жыццё душыла яе; яна горка сумавала над усім тым, што рабілася прад яе вачыма.

Людзі ідэі, каторыя відзяць сваё шчасце ў шчасці народа, каторыя ўсё жыццё аддаюць працы для чалавецтва і дарогу да яснейшай будучыні бачаць у тым, каб уся многамільённая беднатa - ад плуга, сярпа і молата - развівалася свабодна ў лепшых варунках жыцця, - такія людзі блізкі нам думкай (...) І мы сягодня прад яе труною пахіляемо галовы, як перад чалавекам-грамадзянінам, чалавекам ідэі, другам беднаты і нашым другам". ("Наша ніва", 1910 г., № 40).

**УЛАДЗІМІР КАЗБЯРУК**




Званок у дзверы. Адчыняе малы і бачыць на парозе жаніха сваёй дарослай сястры.

- Люба! - крычыць ёй. - Ідзі хутчэй, твая "сініца ў руках" прыйшла!

* * *

- Сынок, цябе сёння вызывалі ў школе?

- Так. Цяпер вызываюць цябе...

***

- Сынок, - кажа маці, - бусел прынёс табе сястрычку. Хочаш яе пабачыць?

- Сястрычку?! Не, я не цікаўлюся дзяўчынкамі, - усміхаецца малы. - Але вось было б цікава пабачыць таго бусла ў снежні!

**В. БАБЕЙ**

*АЛЕСЬ ЕМЕЛЬЯНАЎ*

**Я ПА ВУЛІЦЫ ІДУ**

Я па вуліцы іду,
Па асфальце гладкім.
Запрашаю вас, сябры,
Адгадаць загадкі.

***

Ён бяжыць
Па рэйках гулкіх.
На прыпынку
Не зявай -
Не дагоніш.
Вельмі хуткі
Працаўнік -
Стары
Т...

***

За драты трымаецца,
Часам - спатыкаецца.
Ды падкруціць весялей вус
І бяжыць далей
Т...

***

У тралейбуса, трамвая
Ёсць і трэці брат.
Хто знае?
Ён людзей таксама возіць.
На прыпынку затармозіць,
І глядзіш - няма натоўпу.
Здагадаліся ?
А...

***

Калі хто спазняецца,
Калі хто спяшаецца,
Толькі папрасі -
Падвязе
Т...

***

Ён прачнуўся
Рана-рана.
Мэблю возіць
Ён старанна.
На будоўлю -
Цэглу, рамы.
Малако і хлеб -
У крамы.
Ён лайдачыць не прывык.
А завецца -
Г...

***

Б'е з акон
Агонь сярдзіты.
Дыму воблакі,
Глядзі ты!
Як жа рады даць агню?
01
Хутчэй званю -
У пажарную брыгаду:
- Памажыце!
Дайце рады!
Не губляйце
Часу марна!
- Выязджаем на
П...

***

На баку -
Чырвоны крыж.
Ты калі, машына, спіш?
Добры доктар
У дарозе,
Ён на
Х... Д...

***

Шмат машын,
І усе спяшаць -
Ясны дзень ці хмары.
Нельга ім перашкаджаць,
Кроч па тратуары.

*КАСТУСЬ ЦВІРКА*

* * *

Дрэвы паміраюць, як салдаты,
Што бароняць зоры ад свінца:
Не трасуцца пад пілой зубатай,
А стаяць, прамыя, да канца.

Зрэзаныя, падаюць з раскатам
У траву, у лужын каламуць.
І шчэ доўга - так, як і салдаты, -
Ў хатах, непрыкметныя, жывуць.

* * *

Быць дабрэй,
Быць чысцей,
Пра людзей (яны ж усе
бездакорныя па прыродзе!)
Думаць часцей.

Не, гэта не мода,
Гэта (зноў жа адтуль,
з краіны маленства,
Адкрытай, як неба) -
Душы патрэба.

*ЭДУАРД СКОБЕЛЕЎ*

# ПЕРШАЕ СВЯТА

*КАЗКА*

На свае імяніны Асёл паклікаў гасцей.

Прыйсці мог кожны, але з падарункам.

І сапраўды, кожны трымаў пад пахаю скрутак: хто саламяны брыль, хто белыя пальчаткі, хто пару лакіраваных ботаў. Былі падарункі і таннейшыя: ахапак сена, зламаная пуга, сухі коржык.

Падарункі прымала Ліса. Яна ж праводзіла гасцей да накрытага стала, дзе ўсе гаварылі прамовы. Звяры хвалілі Асла за прыроджаны розум, кемлівасць і далікатнасць.

Упершыню трапіла на такую ўрачыстасць і беспрытульнае мышаня Шмыг. Добрага падарунка не знайшлося, і яно аддало Лісе свой маленькі цацачны гадзіннік. Гэта была ў яго адзіная дарагая рэч.

- Праходзь,- сказала Ліса, сярдзіта глянуўшы на мышаня. - І не вельмі ўлягай за сталом, не забывай, што падарунак твой - абы што...

Мышаня, відаць, не зразумела яе слоў і, апынуўшыся за сталом, пачало ўмінаць ежу за абедзве шчакі. Яно адразу на вачах патаўсцела. Мышаняці было весела, цёпла і ўтульна. Яно, вядома, не адважылася выступаць з прамовай у гонар юбіляра, але з прыемнасцю слухала іншых гасцей.

Праўда, з Балотным Вужом атрымаўся канфуз. Вуж сядзеў за сталом, дзе частавалі зернем і квасам. А гэты харч не для вужоў. Балотны Вуж сядзеў і чакаў, калі і для яго прынясуць пачостку. А тут якраз госці пачалі прыставаць, каб ён сказаў слова.

Вуж доўга адмаўляўся, выгінаўся, але яго ўсё ж прымусілі.

Падслепаваты Вуж паглядзеў на шумнае застолле і прашыпеў:

- Усё до-о-обра. І Асёл до-о-обры, толькі зе-з-ерне на стале кра-а-дзенае...

Тут Ліса ўзвілася:

- Ты, Вуж, з глузду з'ехаў! Страціў усялякую прыстойнасць! Прыпоўз сюды без падарунка ды яшчэ і шыпіш!

І Вужа з-за стала прагнала.

Госці, праўда, крыху збянтэжыліся, а мышаня Шмыг хацела нават уцячы. Але заспяваў хор жабят, зайцы пусціліся ў скокі, і мышаня засталося. Потым козачка Рыта ў крэпдэшынавай спадніцы танцавала з баранчыкам Кешам. І мышаня Шмыг зусім развесялілася, піло і ела, пакуль Ліса не ўшчыкнула яго за вуха.

- Ці не здаецца табе, любае, што ты занадта растаўсцела за сённяшні дзень? Чаго добрага - не пралезеш у сваю нару.

- У мяне няма, цётачка, нары, - супакоіла яе мышаня, умінаючы новую порцыю зерня. - Вы зірніце, як весела!

І калі зайгралі цвыркуны, мышаня пайшло танцаваць з вавёрачкай Муры, апранутай у прыгожы матроскі касцюмчык.

Але вось над лесам узышоў месяц. Крыкнуў Пугач, і ўсе госці пачалі распаўзацца, разлятацца, разыходзіцца па хатах.

Асёл зачыніў вароты, пакашляў, паўздыхаў і таксама ўгаманіўся.

А мышаня Шмыг доўга бегала па цёмным лесе, успамінаючы танец з вавёрачкай Муры, потым забілася пад корч і заснула.

Раніцай яно адчула голад, ногі самі панеслі яго да Асла.

Асёл, сапучы і мармычучы "А-ба-ба-ба-ба", мыў доўгую пысу ў бочцы з вадою. Пачуўшы піск, ён надзеў акуляры і зірнуў за плот.

- Добрай раніцы, - сказала мышаня.

- А што далей? - спытаў Асёл. - Чаго тут тырчыш?

- Я чакаю, калі ў вас зноў будзе дзень нараджэння.

- Доўга табе прыдзецца чакаць, - сказаў Асёл. - Гэта бывае адзін раз у год.

- Тады я хачу забраць свой гадзіннік, - нечакана для самога сябе сказала мышаня.

- Гадзіннік? - перапытаў Асёл. - Але ж ты мне яго падарыла.

Мышаня затапталася на месцы.

- Вядома, - сказала яно. - Я не шкадавала падарунка, калі быў добры пачастунак і іграла цудоўная музыка... А цяпер усе разышліся, і мне шкада майго гадзінніка...

- Бач ты яго! Шкада! - узлаваўся Асёл. - Мне, можа, таксама шкада!

І, перагнуўшыся цераз плот, схапіў мышаня за вушы і шпурнуў далёка ад дома. Мышаня апярэдзіла ў палёце чмяля і шлёпнулася ў лопух.

Ад нечаканага шуму прачнуўся Барсук.

- Цікава, якая гадзіна? - спытаў ён спрасонку.

Мышаня нічога не адказала. Вочы яго былі поўныя слёз.

## Вершы Віктара Шведа

**ВЯЗІ МЯНЕ КАЛЯСКАЙ**

Штодзень адводзіць тата
У яслі сваю Нату,
І просіць, каб хоць трошкі
Ішла на ўласных ножках.

А Ната без прынукі
Хоча, каб браў на рукі.
- Не возьмеш?! Калі ласка:
Вазі мяне каляскай!

**НЕ РАБІЦЕ "КУКУ"**

Хворая была Наталля
І лячылася ў шпіталі.
Там жа некалькі разоў
З яе ручкі бралі кроў.

І калі ізноў з мамусяй
Была ў лекара дачуся,
Лекар толькі ўзяў за руку,
Просіць: - Не рабіце куку...

**НЕЛЬГА ДЗЯЎЧЫНКУ БІЦЬ НАВАТ КВЕТКАЙ!**

Мае наш Лёўка
Дурную звычку.
Набіў ізноўку
Сваю сястрычку!

А праз хвілінку
Азваўся дзедка:
- Нельга дзяўчынку
Біць нават кветкай!

**СТАРЭНЬКАЯ БАБУЛЯ**

- Я ўжо старая, мая дзетка,
Доўга жыву на гэтым свеце.
Розных здарэнняў была я сведкай,
Многа спраў маю на прыкмеце.

- Гадкоў ты пражыла багата, -
Азвалася унучка Лаўра, -
А мо, бабуля, ўжо жыла ты,
Калі былі тут дыназаўры?..



ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ЗІМОЙ НАЙЛЕПШ ЛЯЧЫЦЦА ЧАСНАКОМ

Часнок *(Allium sativum* L.) гэта вядомая расліна, якая паходзіць з сярэднеазіяцкіх стэпаў. Вядомы быў ужо ў дагістарычны перыяд. Паступова настолькі распаўсюдзіўся, што стаў амаль універсальнай прыправай. Сёння садзяць яго ў многіх краінах, таксама і ў Польшчы, і выкарыстоўваюць у якасці прыправы і лячэбнага сродка.

Няма асаблівай патрэбы апісваць гэтую шматгадовую расліну, паколькі ведаюць яе ў нас усе. Найбольш прыдатнай з'яўляецца падземная частка часнаку — цыбуліна дыяметрам каля 4 см, якая складаецца з 5-15 малых зубкоў. Часнок размнажаецца вегетатыўна з цыбулек, якія ўтвараюцца на кветках, або праз падзел падземнай цыбулі.

Цвіце часнок ад ліпеня да жніўня, а сыравіну — падземную частку *(Bulbus Allii sativi recens)*, якую папулярна называюць галоўкамі, збіраюць восенню. Часнок мае слабы запах, пакуль яго не разрэжаш, — тады ён пахне вельмі моцна і характэрна. Па смаку часнок вельмі востры.

На зіму галоўкі часнаку звязваюць у вянкі і вешаюць у халодным і сухім месцы. Часнок высыхае надта паволі, калі ёсць дастаткова белай лускі, калі галоўкі не пашкоджаны і перахоўваюцца ўласціва. Вясною яго лячэбная вартасць крыху меншая, чым восенню. Таму найбольш карысна падрыхтоўваць усялякія прэпараты са свежага часнаку, адразу пасля ўборкі ўраджаю.

Даведзена ўжо на падставе шматлікіх даследаванняў, што часнок і прэпараты з яго ўздзейнічаюць на арганізм чалавека ўсебакова і паспяхова. Перш за ўсё яны забіваюць бактэрыі і знішчаюць дрожджы, грыбы і вірусы. Перад эрай антыбіётыкаў часнок паўсюдна выкарыстоўвалі для аховы перад заразнымі хваробамі, якія мелі характар эпідэміі, — халерай, чумой, брушным тыфам, грыпам і іншымі. Антыбіётыкі, аднак, характэрныя тым, што многія бактэрыі становяцца адпорнымі на іх, чаго не бывае пасля прымянення часнаку.

Часнок значна ўздзейнічае таксама на страўнік, павялічвае выдзяленне страўнікавых сокаў, стымулюе выдзяленне жоўці, дапамагае прысвойваць ежу, тармозіць празмерную ферментацыю, дае магчымасць свабодна адыходзіць газам. Часнок таксама забівае паразітаў, жывучых у кішках, асабліва вастрыцы (owsiki), глісты, а нават выганяе саліцёра, што мае асаблівае значэнне для народаў Бліжняга і Далёкага Усходу.

Часнок добра ўплывае і на дыхальныя шляхі, дапамагае адкашліцца, змяншае задышку. Найлепш у такіх выпадках з'есці нарэзаныя ці сцертыя на тарцы зубкі, або выпіць свежы сок, выціснуты з часнаку. Трэба памятаць, што часночныя прэпараты чым менш пахнуць, тым меншае аказваюць уздзеянне на арганізм чалавека, а моцна пахнучы часнок, пранікаючы праз кішкі ў лёгкія чалавека, уздзейнічае на верхнія дыхальныя шляхі даволі доўгі час.

Часнок таксама значна зніжае ціск крыві і ў нейкай ступені нармалізуе працу сэрца. Зніжае ўзровень халестэрыну ў крыві.

Неабходна таксама мець на ўвазе тое, што часнок дапамагае пры цукрыцы, рэўматызме, а нават у нейкім сэнсе пры ракавых захворваннях, паколькі павялічвае агульную адпорнасць арганізма.

Наогул часнок вельмі мала таксічны для чалавека. Толькі тады, калі чалавек з'есць на працягу дня 600 г свежых галовак, могуць выступіць таксічныя прыкметы. Але, напрыклад, для забіцця паразітаў, жывучых у кішках, дастаткова колькасці, у шмат разоў меншай.

Не рэкамендуецца, аднак, часнок асобам з паніжаным ціскам крыві, пры катарах страўніка, а таксама кормячым жанчынам. Недахопам часнаку з'яўляецца непрыемны запах, які выступае пасля яго спажыцця, а дакучае найбольш асяроддзю. Калі есці разам з часнаком зялёную пятрушку, сэлер ці эстрагон, можна гэты запах крыху змяніць, але не ліквідаваць.

Немагчыма пералічыць усе хваробы, пры якіх можа дапамагчы часнок. Адным словам, унутрана выкарыстоўваюць яго пры катарах кішак, паносе (асабліва ў дзяцей), пры вастрыцах, глістах і іншых хваробах кішак і страўніка. Таксама пры павышаным ціску крыві, запаленні суставаў, атэрасклерозе (miażdżycy), пры хваробах лёгкіх і г.д. Знешне выкарыстоўваюць часнок пры гнойных запаленнях горла, дзёснаў, ангіне, розных пашкоджаннях скуры, пролежнях (odleżynach), гнойных і запальных станах скуры, асабліва выкліканых мікракокам (gronkowcem złocistym), пры гемароях, трыханамозе (rzęsistku), дражджыцы і грыбіцы похвы і інш.

**Скрылёчкі часнаку**

Нарэзаць 1-2 зубкі часнаку скрылёчкамі і, не раскусваючы ў роце, праглынуць, запіць 1/4 шклянкі вады і неўзабаве паесці (найлепш снеданне, абед ці вячэру). Такі спосаб гарантуе, што з рота не будзе непрыемна пахнуць, аднак жа лячэбны ўплыў часнаку не зменшыцца. Калі часнок мае дзейнічаць у роце, найлепш скрылёчкі ці мязгу палажыць на хлеб з маслам і паволі жаваць. Будзе непрыемны запах, але дапаможа, асабліва пры гнойных станах.

**Часночная налiўка**

125 г ачышчаных зубкоў часнаку сцерці на тарцы, заліць 500 мл алкаголю (40-працэнтнага) і паставіць у зачыненым посудзе ў хатняй тэмпературы на 5 дзён, часта патрэсваючы. Працадзіць на густым сітцы і перахоўваць у халадзільніку. Выпіваць па 5-20 кропляў у 1/4 шклянкі малака ці кефіру 2-3 разы ў дзень. Прымаць так гэты сок на працягу месяца, пасля чаго зменшыць дозу і нарэшце спыніць лячэнне на 2-3 тыдні. Гэты спосаб асабліва рэкамендуецца пры рэўматызме, хаця налiўка дапамагае і пры іншых захворваннях.

**Часночны экстракт без запаху**

Ачысціць 30 зубкоў часнаку, пасячы дробна або сцерці на тарцы, даліць 1 літр кіпячонай вады, дадаць сок з паўкілаграма лімонаў, перамяшаць, разліць у малыя слоікі з пакрыўкамі і трымаць у халадзільніку. Піць па адной чайнай ці сталовай лыжцы 1-3 разы ў дзень на гадзіну перад ядой. Калі экстракт гэты п'юць доўга, асобы з паніжаным ціскам крыві павінны кантраляваць свой ціск. Экстракт мае ўсе якасці часнаку як лячэбнага сродка.

**Алейны экстракт з часнаку**

Да 50 зубкоў часнаку, ачышчаных і сцертых на тарцы, дадаць 200 мл алею і паставіць у зачыненым слоіку на 2 тыдні ў хатняй тэмпературы, часта патрэсваючы. Ахоўваць ад святла. Тады дадаць 5 ампулаў вітаміну Е і перамяшаць. Выкарыстоўваць знешне для змазвання і кампрэсаў пры розных хваробах скуры. У выпадку гемарояў прыкладваць нанач ватку, змочаную ў экстракце, рэгулярна на працягу тыдня (перад гэтым вельмі дакладна падмыўшыся).

**Гліцэрынны экстракт з часнаку**

Да 100 г гліцэрыну дадаць мязгу з 50 г часнаку, можна ўсё гэта разам зміксаваць і паставіць на тыдзень у зачыненым слоіку. Тады адцадзіць мязгу, а вадкасць выкарыстаць для лячэння. Ватку мачаюць у гэтым растворы і кладуць яе ў похву 1-2 разы ў дзень пры заражэнні трыханамозам, дражджамі ці патагеннымі грыбамі.

**Клізма супраць вастрыц**

2-3 зубкі часнаку сцерці або зміксаваць з 1 шклянкай летняй вады, паволі ўвесці ў прамую кішку і трымаць там на працягу некалькіх мінут. Паўтарыць гэта 2-4 разы. Спосаб гэты дае вельмі добрыя вынікі, зусім нетаксічны і рэкамендуецца таксама малым дзецям. Добры ён таксама пры запальных станах.

**Мяшанка з часнаком**

Змяшаць роўныя часткі зёлак зверабою (dziurawca), мяты, шалфею і аеру. Заліць 1/2 лыжкі зёлак 1 шклянкай гарачай вады. Няхай пастаіць пад пакрыўкай на пары 20 мінут. Зняць з агню, астудзіць, працадзіць і дадаць сцерты зубок часнаку, а таксама 5 кропляў *„Propolanu"*. Піць па 1/2 шклянкі раніцай і вечарам перад сном. Праз 2-3 тыдні спыніць лячэнне на тыдзень. Мяшанка дапамагае пры страўнікава-кішэчных захворваннях і хваробах дыхальных шляхаў.

У аптэках ёсць гатовыя таблеткі *„Alliofil"* і *„Allisatin"*, якія з'яўляюцца часночным экстрактам. Прымаць па 1-2 таблеткі 2-3 разы ў дзень, не раскусваючы. Захаваны ў іх усе лячэбныя якасці часнаку.

**ЭСКУЛАП**

З запісак шпітальнай "салёвай"

## Я НЕ ДА ТАГО!..

Яцэк і Анэта кахаліся. Кахаліся моцна. Два месяцы пасля знаёмства згулялі вяселле.

Калі Анэта зацяжарыла, муж цешыўся на прыход новага сем'яніна, плода іхніх гарачых пачуццяў.

Нарадзілася дзяўчынка. Яцэк шалеў ад радасці, Анэта спакойна чакала выпісання з бальніцы.

Прыехаў Яцэк, шчаслівы забраў жонку і маленькую Наталлю.

Прыехалі дадому. Пакуль Натальна спала, маці сядзела і не азывалася. Дзіцё заплакала. Анэта падышла да яго, развінула з пялюшак, убачыла, што яны мокрыя.

- Я не да таго створана, Яцэк, каб якімсьці смаркачам с... падціраць! Мала што мне фігуру гэтае г... здэфармавала, то яшчэ і гэта... Я прыгожая, і магу яшчэ жыць поўняю жыцця!

Апранулася і выйшла з дому. Больш не вярнулася.

Яцэк сам гадаваў Натальку. Калі плакала дачушка, плакаў і ён.

**АЎРОРА**

# ВІРАВАНКА




*Усе адвагадваемыя словы чатырохлітарныя і трэба ўпісваць іх вакол нумароў управа. Першую літару ўпісваем у зазначаную клетачку,*

1/ сярэдзіна дня, 2/ хваёвае дрэва, 3/ запоўнены круг, 4/ на экватары круглы год, 5/ дзіця або яблык, 6/ 60, 7/ адна адну мые, 8/ бяда, нядоля, 9/ знаходзіцца там магіла М. Багдановіча, 10/ Яўген Скурко (паэт з „дулам"), 11/ паныласць, маркота, 12/ чалавечы лёс, 13/ перад Табой, 14/ „склад" грошай, 15/ над намі, 16/ плакса, размазня.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 4 н-ра. Упоперак:** крот, Льеж, апенька, аркуш, крысо, нахаба, кулёк, банда, скупеча, удава, асоба, татарын, зіма, арат. **Уніз:** кава, табун, лаўр, жако, Нікан, расклад, шалёўка, каланча, самалюб, апора, світа, асіна, указ, азот.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

Ліст у рэдакцыю

**Паважаны рэдактар газеты „Ніва"!**

Будучы запрошаны ў госці родным братам Пятром Кажурам, я прыехаў да яго ўжо тады, калі ён быў пахаваны. Я не буду апісваць Вам, які адбітак у маім сэрцы зрабіў гэты выпадак.

Я хачу прасіць Вас, паважаны рэдактар, выправіць наступныя недакладнасці ў Вашай газеце ад 8 лістапада 1992 г:

— памёр Пётра Кажура 15 жніўня 1992 г., а не 25 жніўня,

— нарадзіўся Пётра Кажура ў 1913 годзе, а не ў 1923 годзе.

З павагай да Вас,

жонка **Марыя Кажура**,
родны брат **Іван Кажура**.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Паважаная Спадарыня Марыя Кажура, паважаны Спадар Іван Кажура, прыміце яшчэ раз шчыры спачуванні з прычыны смерці мужа і брата.

Памылкі паўсталі не па віне рэдакцыі. Тэкст трапіў да нас з памылковымі датамі і так мы яго надрукавалі. Нянадта і ведаем, хто нам яго даслаў. Надрукавалі мы яго зараз пасля атрымання.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраноўіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва"

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Biały-stok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

**КРЭМЗАЕЎСКАЯ**

Спавіць мазгі ўсім гатова,
Густое не шкадуе фарбы;
У абдымках падбірае словы,
Каб учаперыцца ў жабры.

**ЗМАН**

Падагрэла іскрыстай усмешкай
Недапаленая галавешка.

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

**МЯТЛА**

Мятла, якая доўгі час служыла Вядзьмарцы ў якасці сродка перамяшчэння, паскардзілася на тое, што гэтая праца зніжае яе інтэлектуальны ўзровень.

- Добра, - сказала Вядзьмярка. - Я дам табе такую працу, у якой ты вельмі часта будзеш кантактаваць з мозгам. Я падарую цябе хатняй гаспадыні.

- Што?! - закрычала Мятла. - Няўжо вы лічыце інтэлектуальнай працу ў руках хатняй гаспадыні?

- Я мела на ўвазе, - адказала Вядзьмарка, - кантакт з галавой яе мужа.

**ПОМНІК У БАМБУГЛЕ**

На высокім узгорку каля старадаўняга горада Бамбугл стаіць велічэзны помнік, які быў узведзены на народныя сродкі, каб ушанаваць памяць знакамітага Гаака-Валвола "найлепшага і наймудрэйшага з людзей". Падарожнік з далёкай краіны запытаў у Захавальніка Помніка /а гэта найвышэйшая пасада ў краіне/:

- Вятры мора, о Найвышэйшы, не данеслі да маёй краіны звесткі аб славе вашага вялікага дзеяча. Што ён зрабіў?

- Нічога. Таму мы ведаем, што ён быў добрым чалавекам.

- А яго мудрасць... што ён сказаў?

- Нічога. Таму мы ведаем, што ён быў мудры.

**ШЧОДРАСЦЬ**

Вялікая краіна, нягледзячы на нязвыклы гераізм, пацярпела ад ворага пятнаццаць разоў. І Прэм'ер-Міністр запрасіў міру.

- Я не буду да вас вельмі жорсткі, - сказаў Пераможца. - Я пакіну вам усё, акрамя калоній, свабоды, крэдытаў і пачуцця ўласнай годнасці.

- А, - адказаў Прэм'ер-Міністр, - вы і сапраўды вялікадушны. Вы пакінулі нам наш гонар.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*







Мініяцюры

**ЗНЯМЕЛАЕ ПЫТАННЕ**

Пытанне застывае нема,
Як пойдзеш у краму што купляць:
Старую знішчылі сістэму,
Нашто ж харчы было знішчаць?

**ХТО КУДЫ**

Шукае кожны свайго раю,
Каб мець набытак там найбольшы:
Абрам папёрся ў Ізраіль,
А Янка - гандляваць у Польшчу.

**ЦВЫРКУН І СПЯВАК**

Цвыркун у запеччы цвыркоча,
А паказацца нам не хоча.
Спявак цвырчыць, а не спявае,
Сябе ж усюды выстаўляе.

**УЛАДЗІМІР ПРАВАСУД**
/"Вожык"/

## СЕНТЭНЦЫІ

Апошні бой толькі ў палеглых.

* * *

Салодшы за мёд у спякоту лёд.

* * *

Прыгажосць кветкі ў зярнятах, як месяца - у начы.

**БАРЫС РУСКО**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Сёння я бачыў Зінку Рыгараву. Цэлая ў сіняках! А потым сустрэў Рыгора Матрунінага, таксама пабітага. Што ж гэта такое са старымі?

— Рыгор хацеў сабе агарадзіць месца на могілках. А той пляцык выбрала сабе і Зінка. Спачатку пасварыліся, а потым давай і біцца! За добрае месца на тым свеце...

* * *

— Дай мне, баба, грошай, — просіць сваю апякунку Дарэк. — Хачу купіць сабе жвачку!

— А скуль мне штодзень браць грошы на твае гумы? Пенсія ў мяне малая...

— А сямейны дадатак на ўнукі дзе прагуляць хочаш?!

* * *

На ўроку прыроды настаўнік пытае Адася, якія ёсць хваробы бульбы.

— Зараза, рак, туберкулёз, рэўматызм...

* * *

— Чаму вы едзеце без білета? — пытае пасажыра кандуктар.

— Няма справядлівасці на свеце! Колькі разоў я купляў білет — не правяралі. А раз не купіў — і маеш!

* * *

Наракала Кася на свайго мужа, што такі п'яніца, лянівы, — адно гора. Калі пайшоў на той свет, пачала расказваць, як гэта без яго ёй кепска.

— Ах, а хто ж мне цяпер дроў насячэ, хто быдла дагляне, хто ў хаце паробіць?.. Які б ён не быў, хай бы быў...

* * *

— Тата, — пытае Яраслаў, — а паўлітроўка гэта мала, ці многа?

— Калі хтось табе яе дае, гэта мала, а калі ты яму — многа.

— Ага, таму цётка Крыся сварылася на дзядзьку Васю, што дарэмна з табой паўлітроўку змарнаваў!

* * *

Адзін з пасажыраў у купэ пачаў нечага пільна шукаць. Перарэтрос усе кішэні, доўга корпаўся ў сваім сакваяжы, урэшце пачаў заглядаць пад сядзенні.

— Чаго вы так шукаеце? — зацікавіліся пасажыры.

— Акуляраў.

— А колькі іх у вас?

— Яны ў мяне адны.

— Яны ж у вас на носе.

— Ой, дзякуй, што вы мне дапамаглі, а то не ведаў бы, як знайсці...

**АЎРОРА**






Дарагое Сэрцайка! Мне хутка ўжо пяцьдзесят. Неяк удалося мне спакойна пражыць жыццё. Жаніўся ў пару. Нарадзілася двое дзяцей. Жонка прыемная. Кар'еру зрабіў. Усё як у людзей было. А тут на табе...

У нашу кантору прыйшла на працу маладзенькая дзяўчына. Прыгожанькая была. Пачала працаваць адразу пасля школы. Далі мне яе на сакратарку, бо старая мая сакратарка на пенсію адыйшла. Ну, што ж, працу я ёй паказаў, растлумачыў што і як мае рабіць, а яна ўсё ўважна выслухала і апусціла вочы.

І быў бы спакой, калі б... не ўбачыла яна нешта ўва мне. А я ж жо ў навале працы, можна сказаць, пра мужчынска-дамскія справы зусім забыўся. Са здзіўленнем пачаў я заўважаць на сабе яе палымяныя погляды.

Спачатку было смешна, а аднаго разу ў маім сэрцы нешта ёкнула. Ды так ёкнула, што не давядзі Гасподзь. Але я нават віду не падаў.

Божа, што не рабіла яна, як не хадзіла каля маёй асобы! Прыйдзе, стане ў маім кабінеце, утаропіцца сваімі вачыма і выйсці не хоча. Дзе толькі я не паяўляўся, усюды была яна. Даслоўна таптала мне па пятах. Летам мне трапілася выязная канферэнцыя, якая мела адбыцца пад Варшавай. Патрэбная была сакратарка. Мусіў я ўзяць яе з сабою, хаця рабіў гэта не зусім ахвотна: да маёй жонкі ўжо дайшлі нейкія плёткі і мне не хацелася лішні раз тлумачыцца і быць „без віны вінаватым".

На канферэнцыі вядома як: удзень — праца, увечары — адпачынак. Увага ўсіх чамусьці канцэнтравалася вакол маёй сакратаркі. Чаму? Было ж мнагавата дзяўчат. Пачаў і я прыглядацца ёй бачна. Сапраўды, вылучалася на фоне іншых. Маладая, статная, загарэлы твар. Але найбольш адчуваў я яе заўсёды бліскучыя вочы. Бо і кіраваліся яны найчасцей на мяне. У пэўным моманце нашы вочы спаткаліся і ад гэтага часу мы ўжо не праседжвалі ў кампаніі.

Я адкрыў, што свет яшчэ можа быць цудоўны. Дзяўчына аказалася вельмі вопытная ў сексе. Ніколі не спадзяваўся гэтага па ёй. Думаў, што такую трэба будзе вучыць усяму спачатку. А яна адкрыла тут усе свае тайнікі. Я быў ашаломлены, закаханы, паўпрытомны, калі вярнуліся мы дахаты.

Я працаваў з падвойнай энергіяй. Радасць распірала мяне. Я яшчэ нешта вартаў! Цяпер мая дзяўчына заставалася са мной пасля працы. Мы кахаліся як папала: на падлозе, пры стале, а найлепш было, калі я стаяў, а яна ляжала на стале.

Калісь у разгары нашага кахання падыйшла да майго кабінета жонка. У мяне ўсё ў сярэдзіне атрупянела. Мы затаілі дыханне. Жонка пад дзвярыма пастаяла амаль паўгадзіны, а пасля не вытрымала і пайшла, відаць, думаючы, што я некуды выйшаў.

Такія сцэнкі яшчэ дадаткова ўзбуджалі мяне. Я ўжо не мог жыць без гэтай дзяўчыны. Выязджаў з ёю ў суботу і нядзелю. Нават ужо не баяўся паказвацца з ёю ў рэстаране ці на пляжы. Купляў ёй розныя падарункі. Сапсаваліся адносіны з жонкай. Я ўжо амаль гатовы быў наняць кватэру і пасяліцца там з маёй маленькай, калі ўбачыў яе на вуліцы пад руку з прыстойным хлопцам. У сэрцы ёкнула ізноў, як калісь. Я падышоў да іх і спытаўся, што гэта значыць. Хлопец здзіўлена глянуў на мяне і спытаў: „Гэта твой тата?" Увесь мой гнеў сабраўся ў кулаку, які апусціўся на твар гэтага хлопца.

Больш дзяўчына са мной не сустрэлася, а праз тыдзень звольнілася з працы. Шалею, Сэрцайка. Што рабіць?

**АНДРЭЙ**

Андрэй! Такім старым і дурным парад не ўдзяляю.

**СЭРЦАЙКА**

